PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 52 (1859) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 29 СНЕЖНЯ 1991 г. ЦАНА 1000 зл.



*Менск, снежань 1991 г. Складанне кветак ля помніка Максіму Багдановічу.* **Фота. А. Максімюка.**

## СВЯТА МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Урачыста і святочна адзначалася ў Беларусі сотая гадавіна з дня нараджэння Максіма Багдановіча. З гэтай нагоды Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына", Міністэрства культуры і Акадэмія навук Беларусі запрасілі трое дзеячоў Беларускага таварыства: сакратара ГП БГКТ В. Ласкевіч, намесніка старшыні Я. Сычэўскага і мяне на юбілейныя святкаванні. Восьмага снежня ў памяшканні Саюза пісьменнікаў „Бацькаўшчына" арганізавала ўрачысты сход. Прэзідэнт Згуртавання Васіль Быкаў выступіў з дакладам, у якім у досыць сумнай танацыі прадставіў сучасны стан беларускага грамадства *(тэкст выступлення друкуем на стар. 3 — рэд.)*. Крытыцызм дакладчыка выклікала, перш за ўсё, эканамічная і духоўная спадчына, пакінутая камуністычнай сістэмай. Даклад В. Быкава пазбаўлены быў усякага, так модна да нядаўна, казённага аптымізму, вострa атакаваў ён сістэму, але не ідэалізаваў і беларускага народа, які дагэтуль з нагоды юбілеяў заўсёды называлі "працавітым і таленавітым". Праўда, дакладчык гэтага не сказаў, аднак адчувалася, што турбуе яго небеларуская духоўнасць беларуса, моўнае рэнегацтва і беларуская самапагарда. Мне асабіста спадабалася найбольш тое, што В. Быкаў адышоў ад усякай „канструктыўна-нацыянальнай" міфалогіі, якая дамінавала сярод дзяржаўных беларускіх дзеячоў сацыялістычнай эпохі, якія хвалілі беларускі народ з тым большай рашучасцю, з чым большай энергіяй беларускі народ дэнацыяналізаваўся і пераходзіў на грунт рускай свядомасці і этыкі.

Якраз на гэтыя ўласцівасці звярнуў увагу і я ў сваім дыскусійным выступленні . Пры гэтым зрабіў я і адну крытычную заўвагу ў адрас В. Быкава. Датычыла яна таго, што паводле дакладчыка Беларусь павінна поўнасцю вызваліцца ад ўсяго таго, што звязана з мінулай эпохай. Я звярнуў увагу на тое, што наша айчына будзе поўнасцю свабоднай і дэмакратычнай толькі тады, калі ў ёй будуць мець аднолькавыя правы і абавязкі між іншым члены Беларускай камуністычнай партыі і Беларускай антыкамуністычнай лігі.

Апрача гэтага звярнуў я ўвагу на тое, што „Бацькаўшчына" павінна больш, чым дагэтуль, цікавіцца беларусамі, якія воляй ці няволяй знайшліся па-за межамі Беларусі.

Шырокая паглыбленая дыскусія, у якой выступала каля пятнаццаці дыскутантаў, датычыла розных аспектаў дзейнасці „Бацькаўшчыны". У канцы спаткання ўдзельнікі прынялі тэкст пастановы, якая моцна акцэнтуе справу поўнай незалежнасці Беларусі.

Цікавай была таксама навуковая канферэнцыя, прысвечаная стагоддзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча, праведзеная ў Акадэміі навук. Канферэнцыю вёў акадэмік Мікалай Бірыла, які калісьці выкладаў у Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. З дакладамі выступілі Уладзімір Гніламёдаў, Міхась Мушынскі і Мікола Грынчык — вядомыя даследчыкі беларускай літаратуры. У дыскусіі выступіў між іншым і я. Гаварыў я на тэму „Максім Багдановіч і беларускае замежжа". У сваім выступленні закрануў я справу значнай папулярнасці Багдановіча сярод беларускай эміграцыі на Захадзе і яго пазіцыі ў праграмах і падручніках, якія абавязваюць у тых польскіх школах, у якіх выкладаецца беларуская мова. На заканчэнне прачытаў я верш, прысвечаны Багдановічу:

*Твае косці ў зямлі чужой,*
*У зямлі твайму сэрцу нялюбай*
*І хоць многа на свеце вужоў*
*Але молімся мы за галубак.*
*Свет зялёны у колерах знік,*
*Нас нянавісць да лёту не ўзніме*
*І хаця на грудзях чаравік*
*У душы нашай вечны жнівень.*
*Нам калоссе спявае гімн*
*І мы сонцу заносім малітву,*
*Ставіць восень у лузе стагі,*
*Нібы шлемы герояў па бітве.*
*І па нашай прыгожай зямлі,*
*Дзе прасторна і вёснам, і зімам*
*Як жа многа мясцоў для магіл,*
*Ды няма для магілы Максімавай.*

Выступленне, як і верш былі прыняты ўдзельнікамі канферэнцыі сардэчна.

*(заканчэнне будзе)*

**Аляксандр Баршчэўскі**

## МАСТАЦКІ „КАТАРСІС"

У беластоцкім Бюро мастацкіх выставак (БВА) 10 снежня 1991 г. адкрылася выстаўка-продаж твораў мастакоў з Беларусі „Катарсіс". Выстаўка гэтая, паменшана на працы, якія застануцца ў Беластоку, паедзе ў Катавіцы і Варшаву. Мастакі рашылі частку сродкаў з продажы твораў аддаць у Фонд міласэрнасці.

Выстаўку „Катарсіс" арганізавалі творчая майстэрня пад кіраўніцтвам Рыгора Лойкі, Міністэрства культуры Беларусі як спонсар, Экзархат Беларускай праваслаўнай царквы і Каталіцкі касцёл у Беларусі.

Усе працы рэалістычнага плану — партрэты і пейзажы, у асноўным партрэты пастыроў і манахаў, помнікі архітэктуры.

Камісар выстаўкі, Рыгор Лойка, прывёз 80 прац дваццаці мастакоў, розных па падыходу, па жанру, па ўзросту — ад даволі пажылых артыстаў (за 70 гадоў, як Іван Дмухайла), заслужаных мастакоў Беларусі як Іван Рэй, Уладзімір Гоманаў, дацэнтаў Акадэміі мастацтва — Уладзімір Гардзеенка, Нямцоў, Лойка, да самых маладых, яшчэ студэнтаў — Аксенні Дзягілевай, Эльвіры Уродніч — тых, хто падае найбольшыя надзеі. Усе мастакі — з Менска; мелі

**( Працяг на стар. 5 )**

************************



З новым годам! З новым шчасцем!

## НА мяжы

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

### АДРАДЖЭННЕ
(4)

Патрэбна еднасць. Выдатны знаўца праблем беларускага школьніцтва ў Польшчы Ю. Туронак сказаў нядаўна, што ад 1989 года пачынаецца новы віток хуткага ўпадку беларускага школьніцтва. І вось гэта з'ява зусім як бы незразумелая. Як вядома, спад нацыянальнага школьніцтва абазначае спад нацыянальнай свядомасці. А чаму якраз цяпер, на працягу апошніх двух гадоў выступілі прыспешаныя тэмпы схілу нашага школьніцтва? Як вядома, у гэтым часе наступіў буйны ўзрост польскай нацыянальнай свядомасці. Ніколі яшчэ на працягу ўсіх пасляваенных гадоў не было ў Польшчы, так буйнага ўзрыву нацыянальных пачуццяў як у апошніх двух гадах. Магло б здавацца, што беларусы пойдуць „польскім шляхам" і таксама як палякі праявяць узмоцненыя патрыятычныя пачуцці. Так аднак не сталася. Ёсць і яшчэ адзін незразумелы аспект сітуацыі. Як вядома, да 1989 года Беларускае грамадска-культурнае таварыства было адзінай нацыянальнай арганізацыяй. Ад канца 1988 года пачалі ўзнікаць новыя незалежныя беларускія структуры: БАС, БДА, Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа", Клуб беларускай інтэлігенцыі. Здавалася б, што пасля такога росту арганізацый, забурліць з новай сілай беларускае жыццё ў вёсках і мястэчках усходняй Беласточчыны. Так яно аднак не сталася. Наадварот, апатыя і пасіўнасць у беларускіх асяроддзях выразна паглыбілася, а ступень беларускай нацыянальнай свядомасці выразна панізілася, што выразна відаць на прыкладзе прыгаданага ўжо школьніцтва. Чаму? Не проста адказаць на гэтае пытанне. Мабыць, прычын такога стану рэчаў ёсць многа. Прынамсі некаторыя з іх я хачу назваць. Першая з іх выступае ў радыкальным паніжэнні ўзроўню матэрыяльнага жыцця. Штодзённыя клопаты і праблемы накіроўваюць энергію беларусаў не на рамантычна-нацыянальную ўзнёсласць, а толькі на пазітывістычна-матэрыяльны бытавізм. Другая — гэта многамесячныя дурацкія напасці беларусаў на беларусаў ў радыё, у „Ніве". Трэба сказаць канкрэтна — гэта безразумныя атакі БДА на Беларускае таварыства. Беларус па сваёй натуры ёсць чалавекам згоды і міру, а не задзёрыстасці і бойкі. І таму, бачачы з усё новай сілай ініцыяваныя напады, стараецца ён інстынктыўна ўцякаць ад тых, што ў гэтыя безразумныя бойкі замешаны. Ужо не раз чуў я на вёсках такія фразы: „За што вы там грызецеся, за грошы ці за што? Калі хочаце, каб людзі чыталі „Ніву", то перастаньце ў ёй сварыцца. Калі будзеце грызціся, то ўсе ад вас адвернуцца".

Па сутнасці гэтыя пагрозы ўжо ажыццявіліся. Людзі ўсё меней чытаюць „Ніву", а катастрофа Беларускага выбарчага камітэта сведчыць аб тым, што беларусы адварочваюцца ад тых, хто прадстаўляе беларускі рух у Польшчы.

І часу ўжо няма, апошні званок, прадвяшчаючы поўны крах, раздаўся. І калі дзеячы ўсіх беларускіх арганізацый зараз жа не спыняць узаемнай барацьбы, нянавісці, нападкаў і сварак — заўтра апынуцца каля разбітага карыта, так як гэта сталася з БДА ў выпадку выбараў.

Беларускае таварыства прапануе як найхутчэй пачаць шырокую акцыю сустрэч у паасобных беларускіх вёсках на ўсёй усходняй Беласточчыне, у якіх прымалі б удзел прадстаўнікі ўсіх беларускіх арганізацый. Сустрэчы такія не могуць зводзіцца выключна да прапаганды праграм і мэт паасобных структур, але павінны прапагандаваць ідэю беларускай еднасці ў перыяд цяжкога гаспадарчага крызісу і змагання з гэтым крызісам у эканамічнай і духоўнай сферах.

Калі нехта застанецца збоку і, як дагэтуль, будзе аплёўваць тых, хто яму не падабаецца, дабравольна знойдзецца ў ізалятары напоўненым грамадскай пагардай.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

*************************************************************************

## З мінулага тыдня

У **Брусселі** ў сядзібе Еўрапейскай гаспадарчай супольнасці польская дэлегацыя падпісала дакумент аб далучэнні РП да краін Супольнасці. Ад імя ўрада падпісы пад дакументам паставілі віцэ-прэм'ер **Лешак Бальцаровіч** і міністр замежных спраў **Кшыштоф Скубішэўскі**. Разам з польскай дэлегацыяй такі дакумент падпісалі прэм'еры Венгрыі **Іожаф Антал** і Чэха-Славакіі **Мар'ян Чальфа**. На прэс-канферэнцыі польскі бок заявіў, што галоўнай мэтай нашай краіны з'яўляецца поўнае з'яднанне з Супольнасцю на працягу васьмі гадоў, прыняццё на сябе ўсіх абавязацельстваў і ўвядзенне манетнай уніі. Ратыфікацыя дакумента краінамі Супольнасці прынясе польскаму боку паступовую адмену пошліны на некаторыя прамысловыя і сельскагаспадарчыя тавары. Ужо ў наступным годзе палова нашых прадуктаў, якія экспартуюцца ў краіны Супольнасці, здабудзе бяспошлінны доступ на заходні рынак. Адмена пошліны будзе працягвацца аж да 1998 года. Пасля гэтага тэрміну ад пошліны будуць вызвалены прамысловыя і тэкстыльныя тавары, вопратка. Абмежаванні будуць датычыць толькі сельскагаспадарчых прадуктаў.

**Віцэ-прэм'ер Лешак Бальцаровіч** (ён і міністр фінансаў) звярнуўся ў Сейм з прапановай павялічыць дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту з 26 на 31 більён злотых. Прычынай росту дэфіцыту з'яўляецца павелічэнне выдаткаў (на 4,5 більёна зл.) на датацыю для фонду сацыяльнага страхавання. Даход фонду будзе меншы за планаваны на 3 більёны зл., а выдаткі большыя на 1 більён. Сенат, пасля бурных спрэчак і спроб паставіць міністра фінансаў перад Трыбуналам Стану, канчаткова прыхіліўся да ўрадавай прапановы павелічэння бюджэтнага дэфіцыту на 5,5 більёна злотых.

**Закончыліся II Пунскія гаспадарчыя сустрэчы**, арганізаваныя мясцовай гмінай управай. З'явілася на іх 200 прадстаўнікоў з 85 польскіх і літоўскіх фірмаў. Чарговыя сустрэчы будуць праводзіцца ў студзені.

**З 20 снежня г.г.** на дваццаць дзён адкрыты кантрольна-прапускны пункт Брузгі — Кузніца для жыхароў Гродзенскай вобласці.

**У дзень св. Мікалая** адбыліся рэлігійныя ўрачыстасці ў Святамікалаеўскім саборы ў Беластоку. Удзельнічалі ў іх архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава**, архіепіскап Гомельскі **Арыстарх** і епіскап Люблінскі і Холмскі **Авель**.

**Фонд польска-нямецкага супрацоўніцтва** дзейнічае ужо ў Варшаве. Яго капітал 570 мільёнаў марак. Стварэнне фонда было ўзгоднена ў час візіту канцлера ФРГ Хельмута Коля ў Польшчы ў 1989 годзе.

## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### „БЛАКІТНАЯ КРОЎ" ЧЫРВОНЫМ НЕ ДА ТВАРУ

Беларускі саюз шляхты мае намер пазбавіць хляхецтва ўсіх высакародных асоб, якія з'яўляліся членамі камуністычнай партыі

Між іншым, сам Саюз шляхты зараз аб'ядноўвае каля 650 паноў і падпанкаў. Аднак, як неадпаразова заяўляў старшыня БСШ Пятро Гушча, на Беларусі кожны дзесяты жыхар мае прыналежнасць да шляхецкага роду. А што самае дзіўнае, дык гэта тое, што прыкладна столькі ж (больш за 600 тысяч) грамадзян рэспублікі да нядаўняга часу з'яўляліся членамі кампартыі. Таму поле дзейнасці для „чысцільшчыкаў" шляхты амаль неабмежаванае.

### ДЭМАКРАТЫ КЛІЧУЦЬ НА ВЯЛІКІ СХОД

Экспертная рада і Палітычная камісія Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі (АДПБ) выказалі патрабаванне аб правядзенні ўсерэспубліканскага рэферэндуму.

У спецыяльнай заяве аб'яднаных дэмакратаў гаворыцца, што на Беларусі неабходна ў бліжэйшы час правесці выбары Прэзідэнта, які б сфармаваў урад і пачаў рашучыя рэформы ў эканоміцы. Адначасова, на думку членаў АДПБ, на рэферэндум трэба вынесці пытанне аб даверы Вярхоўнаму Савету рэспублікі і аб незалежнасці Беларусі.

### ПАДАЙЦЕ НА АДУКАЦЫЮ!

Зусім верагодна, што сёлетнія калядныя вакацыі беларускіх шкаляроў ды студэнтаў будуць больш працяглыя, чым звычайна. І настаўнікі і выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі маюць намер распачаць з 1 лютага наступнага года ўсеагульную забастоўку ў выпадку, калі ўрад Беларусі не палепшыць да гэтага часу матэрыяльнае становішча і ўмовы працы работнікаў народнай адукацыі.

### НАЗАД У МАТРЫЯРХАТ

Новая грамадская арганізацыя „нарадзілася" днямі на Беларусі. На гэты раз у Саюз аб'ядналіся жанчыны. Асноўная мэта Саюза жанчын Беларусі — абарона правоў і законных інтарэсаў цудоўнай паловы чалавецтва, павышэнне ролі жанчын у грамадска-палітычным, эканамічным і культурным жыцці рэспублікі.

### З БОГАМ!

У Менску пачаў дзейнічаць першы ў рэспубліцы медыцынскі цэнтр Беларускага экзархату. Урачы гэтай царкоўна-медыцынскай установы лечаць сваіх пацыентаў нетрадыцыйнымі метадамі, у аснове якіх спагада і міласэрнасць да хворых. І толькі ў самым крайнім выпадку тут прымяняюцца медыкаменты.

Узначаліў гэты хрысціянскі медыцынскі цэнтр святар менскай царквы Святой Марыі Магдаліны Ігар Салавей. Між іншым, айцец Ігар мае адукацыю ўрача-псіхіятра.

### ТАТА, МАМА, Я — БЕЛАРУСКАЯ СЯМ'Я.

Згодна інфармацыі Дзяржаўнага камітэта па статыстыцы і аналізу рэспублікі, на сённяшні дзень на Беларусі 88 працэнтаў насельніцтва (амаль 8,8 мільёнаў чалавек) жывуць у сем'ях. Прычым, зараз у рэспубліцы 65 працэнтаў сем'яў — чыста беларускія, гэта значыць у іх як бацька, так і маці — беларусы, 25 працэнтаў сем'яў — змешаныя, 6 працэнтаў — выключна рускія, 3 працэнты — польскія, 1 працэнт — украінскія і столькі ж яўрэйскіх сем'яў.

### БАКІ ЗАДАВОЛЕНЫ...

Усхваляваны нядаўнімі падзеямі ў Белавежскай пушчы Джэймс Бэйкер „вандруе" на сталіцах былых саюзных рэспублік не адзін. Прааналізаваўшы склад рабочай „каманды", можна быць упэўненым: галоўная мэта візітаў дзяржсакратара ЗША — атрыманне гарантый аб кантролі за ядзерным узбраеннем. Перагаворы праходзілі за закрытымі дзвярыма. Усе спробы прэсы разгаварыць амерыканскі бок аказаліся беспаспяховымі. Дзяржсакратар ЗША, які захоўваў маўчанне, не адмовіўся толькі ад адзінага пытання: "Ці задаволены вы вынікамі сустрэчы?" Джэймс Бэйкер зазначыў, што сустрэча была вельмі карыснай. Паводле слоў Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча амерыканскі бок прадэманстраваў добрае веданне сітуацыі на Беларусі, высока ацаніў стан яе эканамічнай інфраструктуры і намаганні беларускага кіраўніцтва, накіраваныя на дэмакратызацыю грамадскіх працэсаў. Як сведчыць Станіслаў Шушкевіч, Джэймс Бэйкер станоўча ацаніў факт утварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў, амерыканскім бокам выказана гатоўнасць да аказання дапамогі непасрэдна новаўтвораным суверэнным дзяржавам. Беларусь пацвердзіла сваё імкненне стаць без'ядзернай зонай.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Каляндар на 1992 год.
- Ці будуць Кляшчэлі мястэчкам?
- Да стагоддзя з дня нараджэння кс. Адама Станкевіча.
- У Беларускім экзархальным упраўленні ў Менску.
- Багацце нетраў Беларусі.
- Водгукі на нататкі рэдактара Валкавыцкага.

# КАБ НЕ ПАМЕРЦІ З ГОЛАДУ

*Ніжэй друкуем уступнае слова Васіля Быкава на гадавым сходзе Рады Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына", якое зачытаў ён 8 снежня гэтага года. Васіль Быкаў, народны пісьменнік Беларусі, восенню 1990 года абраны быў ганаровым прэзідэнтам Згуртавання „Бацькаўшчына". Выступленне, змест якога перадаем поўнасцю, на некалькі гадзін апярэдзіла заяву Ельцына, Краўчука і Шушкевіча аб роспуску СССР і стварэнні Саюза Незалежных Дзяржаў.*

Нацыю апаноўвае трудны нязбыўны клопат! Як жыць? Нават — як выжыць? Ніколі, мабыць, такога не было ў нашай гісторыі, каб усё скруцілася такім заблытаным клубам: палітыка, эканоміка, культура — сам лёс. Напрыканцы XX стагоддзя мы апынуліся жабракамі, нават у сэнсе самага неабходнага: харчу, жытла, этыкі, маралі, духоўнасці. Усё збанкрутавалася. Засталася хіба гісторыя, вопыт шматлікіх пакаленняў — гэта сапраўды наш адзіна каштоўны капітал, які належыць нам і болей нікому. І мы павінны яго скарыстаць дзеля паратунку. Ён вучыць.

Найпершы ягоны ўрок ужо не гавора — крычыць ва ўвесь голас пра нашу занядбаную дзяржаўнасць. Мала які народ у свеце быў так несправядліва абдзелены на дзяржаўнасць, як наш беларускі народ. Ад таго ўсе нашы няшчасці, гэта цяпер бачна і сляпому. Імкненне да дзяржаўнасці ў сучасных умовах — гэта не прывярэда бібліятэчнага розуму — гэта самы катэгарычны з імператываў, бо справа ідзе пра тое, жыць ці памерці. Але не было б шчасця, ды памагла бяда, і з ёй выпаў шанец: цяпер ці ніколі. І дарма нас спрабуюць пераканаць у выратоўчае сіле імперскай згуртаванасці, у якой толькі і магчыма „не пропасть поодиночке". Як кажуць, тое мы ўжо прахадзілі на працягу больш як 70 год. Наш вопыт выразна сведчыць: ад гэтае сілы мы і прападаем. Сілы, якая ўвесь свет паставіла перад пагібеллю і цяпер не ведае, як самой ад сябе ўратавацца. Мы не хочам тае звярынай сілы і яе д'ябальскіх ідэй — мы адно зычым сціплага людскога існавання — без ядзерных ракет, незлічоных танкавых статкаў, без пачварнага ВПК, антычалавечай бальшавіцкай ідэалогіі. Мы сціпла задаволімся чорным, несамавітым хлебам ад нашых малаўраджайных ніваў, нашай карміцелькай бульбачкай. Але каб без нялюдскіх амбітных войнаў і рэвалюцый, ідэалагічнага бразгатання, без несканчонай пачварнасці праблем, якія толькі і магчымы ў бязладдзі таталітарнай імперыі, што распаўзлася ад Балтыкі да Ціхага акіяна. Што, між іншым, яе і згубіла.

Мы хочам жыць мірна і талерантна, разумна ладзячы з усімі суседзямі за мяжой ды іншамоўнай меншасцю ўнутры — як жылі дасюль сотні год. Пры добрым зычэнні з абодвух бакоў, у атмасферы цярпімасці і богашанавання. Мабыць, даўно пара нам павярнуцца тварам на захад, хопіць даўно скампраметавана хаўрусу з усходам. Мы еўрапейская нацыя, частка нардычнай расы, здаўна належым да хрысціянскага свету. А што нам прынесла шматгадовае яднанне з Усходам, мы балюча адчуваем на уласнай скуры. І мабыць, будзем адчуваць яшчэ доўга.

За гэты трывожна-пакутны час мы ўсё ж сяго-таго дамагліся. Маглі б і болей, як пра тое сведчыць прыклад нашых суседзяў — на поўнач і на поўдзень ад нас. Але мы нерашучая, занадта пакорлівая і безініцыятыўная нацыя, апатычны, нехлямяжы народ, які бы і сто год таму пачуваецца бяздумны і сляпы нібы крот. Толькі той радасці, што вузкае кола — самаадданая жменька з ліку нацыянальна сведамай інтэлігенцыі, ад якой так шмат што залежыць.

Занадта, аднак, цяжкая на ёй ляжыць ношка, можа напаткаць яе горкі, пакутлівы лёс. Ды выйсця няма. Яна павінна намагчыся на тое, што ёй наканавана лёсам, і выканаць свой абавязак.

Абавязак гэты не просты. Панаванне кампартыі пахіснулася, але камуністы так ці інакш кіруюць Беларуссю. Яны ўжо павылязалі з акопаў, і мы здзіўлена расплюшчваем вочы, згледзеўшы іх у новым убранні: замест звыклых сталінскіх фрэнчаў на іх белыя вышыванкі. Басавітымі, натрэніраванымі на партсходах галасамі яны крыўдліва крычаць пра занядбанне правоў чалавека, забарону палявання на ведзьмакоў-анёлаў і брак дэмакратыі, якой іх абудзілілі. І нават, здараецца, выступаць на „мове", якой пакрысе авалодваюць. Што ж, яны людзі здольныя, калі захочуць, умеюць усё.

Так неўпрыцям нацыя займела новых, нябачных дагэтуль ворагаў — нацыянал-камуністаў, што бетоннай сцяной паўстаюць на яе шляху ў будучыню. Іх выгналі ў дзверы, а яны лезуць праз вокны. Не ўдаўся адзін путч, яны наладзяць яшчэ хоць дваццаць. Для таго ў іх ёсць усё неабходнае: таўсташы, адкормленыя на спецпайках кадры, звыклы маладзёжны рэзерв — нядаўна легалізаваны камсамол, рублі і валюта. Да іх паслуг зноў парасчыняныя будынкі ЦК і райкамаў, вопытныя майстры пераваротаў з ВПК, генералітэту, МУС, КДБ, дзе ў іх спрэс аднадумцы. А галоўнае, як і заўжды, яны карыстаюцца нашай цярпімасцю, наіўнай даверлівасцю нашай слабасільнай дэмакратыі. У барацьбе з таталітарнай навалай традыцыйныя дэмакратычныя метады ўсё болей выяўляюць сваю няздольнасць. Мабыць, сапраўды маюць рацыю тыя, што сцвярджаюць: беларусы не дараслі да дэмакратыі. Наша немачная дэмакратыя пасттаталітарнага грамадства з такою, як у нас асабленай нацыянальнай ментальнасцю, здаецца, прыдатна толькі на адзін урок: паказаць як не трэба. Цяпер ужо пэўна, што для таго, каб чагось дамагчыся, нам бракуе аўтарытэтнага дэмакратычнага лідэра. Лідэра нацыі, якому б народ мог даверыць свой лёс. Але ўся праблема ў тым, што лідэры не прызначаюцца і нават не выбіраюцца. У драматычныя моманты гісторыі лідэр спантанна вылучаецца з недраў нацыі. І гора той нацыі, якая ў пэўны час застанецца без уласнага прывадыра.

Дык што ж нам рабіць, на што спадзявацца? Усе нашыя ранейшыя спадзяванкі аказаліся негрунтоўныя. Ні федэрацыя, ні канфедэрацыя ні абноўлены Саюз, ні куртаты Саюз суверэнных дзяржаў нас не ўратуе. Новы славянскі траечны Саюз? Але што гэта такое, хто можа сказаць? І якая роля ў ім нарыхтавана самаму слабому члену-сябру – пра тое можна ўжо здагадацца.

Я думаю, найперш трэба спадзявацца на саміх сябе. На ўласны клопат і ўласную нацыянальную годнасць. На тую неаспрэчную ісціну, што нават мы, беларусы, можам намагчыся на многае, калі прыпячэ надта пільна. Як гэта было ў мінулай вайне. Цяпер час не меней жахлівы, і клопат наш не менш пільны. Таму прачнемся ж нарэшце ды возьмемся за нарог свае вялікай патрэбы — ладзіць сапраўдную дзяржаўнасць. Калі не дзеля багацця і раскошы, дык хаця б дзеля таго, каб не памерці з голаду.



*Прамаўляе прэзідэнт ЗБС „Бацькаўшчына" Васіль Быкаў.*

**Фота А. МАКСІМЮКА**

## СІМПОЗІУМ АБ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЯХ

21 і 22 лістапада г.г. у Любліне адбыўся сімпозіум на тэму „Нацыянальныя меншасці ў Польскай палітычнай думцы XX стагоддзя", арганізаваны Інстытутам палітычных навук Універсітэта Марыі Складоўскай-Кюры. Ва ўступным дакладзе „Нацыянальныя меншасці ў Польшчы. Колькасць, размяшчэнне, статус" мгр Збігнеў Адамовіч прадставіў сітуацыю нацыянальных меншасцяў у міжваеннай і пасляваеннай Польшчы. Дакладчык вылічыў, што меншасці складаюць 3 % грамадства, а лік беларусаў ацэньвае ён на 200—250 тысяч. Далей чыталіся даклады аб адносінах да нацыянальных меншасцяў у міжваенны перыяд важнейшых палітычных плыняў: нацыянал-дэмакратыі (д-р Эва Май), хрысціянскай дэмакратыі (д-р Багуслаў Паўлоўскі), кансерватыўнай партыі (д-р Уладзімеж Міх), народнага руху (праф. Ян Яхымек), сацыялістаў (д-р Станіслаў Міхалоўскі), пілсудчыкоўскага лагера (мгр Вальдэмар Парух), камуністычнага руху (д-р Крыстына Трэмбіцка) і дэмакратаў (д-р Данута Вінярска-Тваруг). Аб адносінах польскай палітычнай думкі пасля II сусветнай вайны гаварыў дац. Антон Мячкоўскі.

Дыскусія засяроджвалася перш за ўсё на пытаннях: дзе канчалася палітычная думка, а пачыналася палітыка ў адносінах да меншасцяў, што такое нацыяналізм, што рабіць, каб адносіны да нацыянальных меншасцяў былі нармальнымі.

ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ

## СЕСІЯ АБ УСХОДНЕСЛАВЯНСКІХ МОВАХ

26 лістапада г.г. Аддзяленне Усходнеславянскіх філалогій Філіі Варшаўскага універсітэта правяло навуковую сесію на тэму „Усходнеславянскія літаратурныя мовы ў філалагічных даследаваннях". У працы сесіі прынялі ўдзел вучоныя з Віцебска, Гродна, Уладзіміра, Казані, Варшавы, Слупска, Кельцаў і Беластока. Арганізатар сесіі праф.**Ян Насовіч** лічыць, што паўночна-ўсходні рэгіён нашай краіны гэта свайго роду рай для мовазнаўцаў. Створаная ім Камісія па этналінгвістычных даследаваннях паўночна-ўсходніх крэсаў Польшчы будзе займацца ўсебаковым аналізам мовы як элемента і інструменту культуры, пражываючых побач сябе этнічных і рэлігійных груп на Беласточчыне і Сувальшчыне. Неадкладнай справай для камісіі з'яўляецца збор і дакументаванне ўсіх элементаў этнаса, якія пад уплывам цывілізацыйных працэсаў бясследна прападаюць.

Вучоныя з Гродна прачыталі на сесіі два даклады. Загадчык кафедры мовазнаўства Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы **Павел Сцяцко" ў дакладзе „Беларуска-польскія ўзаемасувязі на лексічным узроўні" ахарактарызаваў прычыны лексічнага пранікання польскай мовы ў беларускую і наадварот, а таксама звярнуў увагу на месца польскіх элементаў у паўднёва-заходніх беларускіх дыялектах, асабліва ў гаворках Гродзеншчыны. Загадчык кафедры беларускай літаратуры ГрДУ Ксенафонт Лецка** прачытаў даклад „Верш Янкі Лучыны „Pyszny widok" у беларускіх перакладах". У ім аўтар упершыню разгледзеў беларускія пераклады верша, прысвечанага тэме Каўказа і Беларусі, устанавіў ступень суадносін рамантычных і рэалістычных тэндэнцый у арыгінале і перакладах.

(л)

## БАГДАНОВІЧАВА ВЕЧАРЫНА

15 снежня г.г. у зале БГКТ у Беластоку адбылася вечарына з нагоды сотых угодкаў з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта Максіма Багдановіча. Пра яго жыццёвы шлях і паэтычную творчасць вельмі цікава расказваў прафесар Аляксандр Баршчэўскі, які прачытаў таксама свой верш, прысвечаны песняру. Прамоўцу прысутныя шчыра апладзіравалі. На вечарыне прысутнічалі вучоныя з Мінска і „белавежцы" Г. Валкавыцкі, В. Швед і Я. Целушэцкі, якія падпісвалі свае кніжкі.

На заканчэнне ўрачыстасці адбыўся спектакль гродзенскага кабарэ „Вернісаж" і паказ моды ў выкананні гродзенскіх прыгажунь.

(ця)




### У АДКАЗ ПРАВАДЫРУ

**Спадар Віталь Луба,**
**галоўны рэдактар „Нівы".**

У „Ніве" н-р 48 ад 1 снежня 1991 г. Вы змясцілі тэкст Сакрата Яновіча „Ляшчынскі пляце глупствы".

Сцвярджаю, што С. Яновіч лжэ, пішучы быццам бы падчас перамоваў з прадстаўнікамі Беларускага выбарчага камітэта я паставіў умову, каб у назве будучага супольнага камітэта не было „анічога яўна беларускага". Лгунства таксама і тое, што я нібыта ставіў якія-небудзь варункі адносна чаргавасці ўпісання мяне на супольны выбарчы спісак (бюлетэнь).

Некалькі месяцаў таму С. Яновіч змясціў у „Ніве" тэкст „Чыквіну патрэбны вораг", у якім лгучы і перакручваючы бясспрэчныя факты, намагаўся мяне ачарніць. Абразіў таксама блізкую мне асобу, якая да ўсяе тае справы не мела ніякага дачынення. І Яновіч да сённяшняга дня нават не агорыўся на банальнае „перапрашаю", чаго патрабуе элементарная культура. Не зрабіла таго і рэдакцыя.

У апошнім тэксце С. Яновіч піша пра мяне, што быццам бы нядаўна я быў „праваслаўны паляк а цяпер праваслаўны беларус, заўтра пэўна „буду" праваслаўны украінец" — усё гэта хлусня і звычайная подласць.

„Ніва", якая мае служыць усёй нашай грамадскасці, сталася, на жаль, месцам публікавання зацятае грызні ды сварак, што вядуць паміж сабою розныя беларускія дзеячы.

Апошнім часам па радыё і з самай папулярнай сярод польскай інтэлігенцыі „Газэты выборчэй" пра тое, што „Беларусы сварацца" даведалася ўся Польшча. Гэта выклікае смутак і прыгнечанасць. На жаль, калі з'явіліся варункі свабоднай дзейнасці, калі кожны, хто толькі хоча, мае неабмежаваныя магчымасці працаваць для дабра беларускай культуры, асветы, паляпшэння варункаў жыцця на так званай „усходняй сцяне", і то ва ўмовах, пра якія заангажаваныя ў беларускія справы людзі ў мінулыя 50 гадоў маглі толькі марыць, тады дагэтуляшнія „правадыры" беларускага руху трацяць час і сілы на знішчэнне адзін другога.

На прычыну гэтай з'явы ў мяне ёсць свой погляд. Але я не хачу гаварыць пра гэтыя канфлікты, а тым болей не маю намеру ў іх удзельнічаць. Не рэагаваў я на ўсю тую кампанію, якую вялі супраць мяне маладыя дзеячы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, згуртаваныя пры „Часопісе". Не палемізаваў я таксама з маім ранейшым сябрам Яўгенам Мірановічам, якому апрача дабра, я нічога, мабыць, не зрабіў. А ён, пасля таго, як мы ў „Тыгодніку падляскім" крытычна выказаліся пра ўсхваляючыя уніюю публікацыі С. Яновіча, ужыў у „Ніве" ў адносінах да мяне надта ж абразлівых слоў. Сцярпеў я тыя знявагі, бо ведаю, з якой прыкрасцю нашыя людзі ўспрымаюць усе гэтыя сваркі.

Аднак не магу маўчаць, калі С. Яновіч абвінавачвае мяне ва ўдзеле

**( Працяг на ставр. 6 )**






**Беласток.**
Вул.Заменгафа.
*Мал. У. Петрука*

*************************************************************************

Гасцініца „Беларусь" у Менску (замежнікам на прыватным пашпарце 20 долараў за суткі), пасля знятужлівага падарожжа з Беластока, прывітала нас мардабоем. У холе гасцініцы двух хуліганаў адабрала ў міліцыянера дубінку і адлупцавала яго так, што аж крывёю заліўся.

— Ці часта ў вас такое тварыцца? — пытаем у вахцёршы.

— Не, у нас такога не бывае, гэта першы раз.

У Менск паехалі ўчатырох. Усе журналісты. Тэарэтычна афармленне выезду за ўсходнюю мяжу Рэчыпаспалітай штораз болей ускладняецца. Прапускны пагранічны пункт у Кузніцы, як і іншыя, усё зацiскаецца і зацiскаецца. Беларусы сцерагуць, каб іхні тавар не ўцякаў у торбах турыстаўгандляроў у суседнюю капіталістычную Польшчу. Мяжа адчынена ўсяго для службовых, ці ў сямейных справах, падарожжаў. Як будзе ў дзевяноста другім — невядома. На практыцы ж, выехаць у Беларусь не так ужо і цяжка. Палітычная свабода паспрыяла там узнікненню і легалізацыі шматлікіх, між іншым і маладзёжных, суполак, аб'яднанняў, таварыстваў. Запрашэнне ад адвольнай такой установы — падстава для службовага падарожжа. Наша запрашэнне складалася, бадай, ці не з адной фразы: „Дарагія сябры, прыязджайце!"

З білетам у Менск у беластоцкіх касах клопат — выкупленыя наперад. Трэба браць у Гродна, а далей як пападзе. У крайнім выпадку, як і я зрабіў, можна білет набыць у цягніку, у кандуктара — ад Беластока да мяжы, далей яго ўжо маё падарожжа не цікавіць, канчае працу.

Як з Гродна ў Менск даехаць? Вось пытанне. Можна, і гэта самае хуткае выйсце, на таксі. На стаянцы, як ні глядзі, даўно ўжо рынкавыя адносіны. У першай дэкадзе снежня плацілася там яшчэ рублямі — ад 800 да 1000. На колькі старгуеш, столькі ж заплаціш. Замежніка знюхаюць з першага пагляду ды дзяруць без спагады — торг кароткі: не, то калі ласка пехатою. Звярыны твар капіталізму.

Бывае, што гродзенскі таксіст сустракае на трасе свайго менскага калегу, які шпарыць у адваротны бок — абменьваюцца пасажырамі ды ашчаджаюць сабе палову дарогі, бензіну і часу. Сапраўдныя мафіёзі.

У Менск даязджаем на змроку. Горад робіць зразу каласальна-прыгнятальна-адпіхальнае ўражанне — ніякіх прыгарадаў, у адзін момант страляе ў неба сцяна бетону. Вось і Менск. Уладкаваўшыся з начлегам, туляемся па горадзе ў пошуках, дзе б тут павячэраць. Павячэраць можна толькі ў рэстаране, а там народам набіта, няма месцаў. За намі шаснаццаць гадзін падарожжа. „Да Менска трэба прызвычаіцца, каб яго палюбіць," — захоўвае добры настрой мой рэдакцыйны калега. Ні мне, ні іншым гэты настрой не ўдзяляецца. Мы не ўяўляем сабе затое, як тут жыць можна — забылі пра тое, што і ў нас былі чэргі, бракавала падстаўковых прадуктаў. Зараз Беларусь у такім стане — замарожаныя цэны, талоны дый церпіць на дадатак ад тых працэсаў, якія адбываюцца ў суседняй Літве, ці Украіне, якія пайшлі па шляху лібералізацыі. Тавар туды адплывае. Але ж жывуць людзі ў Беларусі. Мала таго, у агалочанай Масковіі Беларусь явіцца як краіна такога-сякога дабрабыту. Нічога дзіўнага, што Расея так напорыста гне і Беларусь, і Украіну да ўсялякіх саюзаў і садружнасцяў. Без іх ёй не выжыць, канец з ёю.

## БЕЛАРУСЬ НА ЗЫХОДЗЕ ДЗЕВЯНОСТА ПЕРШАГА

Вярнуся да вячэры. Асталіся б мы галодныя, няйначай, каб не пару долараў, якія заўсёды з сабою мець трэба. З імі лягчэй у рэстаране дзверы адчыняюцца. Быў гэта наш найвялікшы выдатак таго вечара. Пазней, калі вярнуўся гумар, ганяліся падземкай. Сваёю падземкай Менск можа пахваліцца перад усім светам. Не то, што ў Варшаве, дзе ўсё будуюць, і не то, што ў Рыме ў час сусветнага чэмпіянату, дзе пацукі, ад людзей не тоячыся, эстафетай браліся на выперадкі.

Аднаго вечара развітаўся я з сябрамі, бо задумалася мне наведаць знаёмых, якія пераехалі з Менска ў Вільню, у незалежную Літву. Перасцерагалі мяне, што будуць дзве мытні па дарозе, дык на ўсялякі выпадак яшчэ раз з сябрамі развітаўся. Аказалася аднак, што цягнікоў мытні яшчэ не датычаць. Увесь мой клопат пачаўся, калі трэба было вярнуцца з Вільні, абы-куды, каб толькі вярнуцца. У касах „Інтурыста" білетаў у Польшчу звычайна няма. Перад касамі мафіёзі, якія за долары гэтымі ж білетамі гандлююць, але на два-тры дні наперад, а на гэты сам дзень няма. Схадзіў у польскае пасольства, там шукаючы падтрымкі, нібыта, калі не выеду, выпуск газеты сарвецца. У нічым не могуць дапамагчы, маўляў, білеты ў касах альбо ў мафіёзі. Адно, што атрымаў я ў пасольстве гэта газета „Кур'ер віленскі", у якой прачытаў, што немагчыма ў Вільні купіць білет у Польшчу. Пагнаўся я на аўтобусны вакзал, дзе з дапамогаю знаёмага (там жа па-літоўску гаварыць трэба) удалося дастаць білет у Гродна.

Каля аўтобуснага вакзала ў Вільні стаянка — „Таксі ў Польшчу". З цікавасці даведаўся цану. Перапалоханы прапаноўваю таксіст, закрычаў: „Сто шэсцьдзесят долараў!" А пайшоў ты нахер, летувісе адзін, я з Рыма ў Варшаву толькі сто пяцьдзесят заплаціў.

Аўтобус едзе амаль пяць гадзін. Па дарозе сапраўды дзве мытні: літоўская і беларуская. На шчасце дакументаў не правяраюць — меўся б я тады са сваім падарожжам у незалежную Летуву...

На гродзенскай мытні сустракаю паўпрытомных сваіх беластоцкіх сябрукоў — яны таксама вяртаюцца, з Менска. Праз мытню хацелі мы прайсці службовым уваходам. Адтуль нас адсадзілі ў чаргу. Але нейк так сталася, што зноў аказаліся мы наперадзе. Гэта так знервавала функцыянераў, што ўзяліся за нас. Перятраслі дакладнюсенька. Шукалі зброю, долары, золата, наркотыкі... Як у агентаў ЦРУ. Кажу вам.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**06-04-1988 г.**

Пераклаў і падрыхтаваў на ксеракс „Саборнае Пасланьне". Антось Мірановіч прыбег рана: уладыка Сава хоча, каб і па-беларуску; загадаў а. Косціку Бандаруку, але ён не дае рады!...

Вось так: калі што каму трэба па-беларуску, дык да мяне! Ад камуністаў па хрысціян.

Усё паседжваю над інтэрв'ю „Ніве", аналізую нацыянальную будучыню нашу беларускую (ці ёсць яна ў нас?).

Чую — Сэрчык выступіў у беластоцкім „Паксе", са сваімі сімпатыямі да беларусаў, дык яго там мала не заелі. Беларуская тэматыка бяспечная толькі ў глыбі Польшчы, дзе не мае яна грамадскага значэння. Не ў Беластоку.

**13-04-1988 г.**

На маё здзіўленне, атрымаў я (учора) перапрашальны ліст ад галоўнага рэдактара „Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" Івана Шамякіна! Як і выпадае гэтаму мандаку, усю віну валіць ён на нейкага навукова-кантрольнага рэдактара, які быдта *„...не крытычна паставіўся да інфармацыі і некаторых выступленняў у друку, што тычыліся Вашага імя"*.

Паабяцаў, што ў наступным выданні „Энцыклапедыі" я ўжо буду красавацца. Ага, czekaj tatko latka...

У „Ніве" — „Беларускае здалі ў арэнду? " Рэпліка Скарадзінскім. Ї першы напамін-згадка пра існаванне „Białaruskich Dakumentaú" ды „Archiunaha ssytka".

У тыднёвіку „Przegląd Tygodniowy" ад 26 ліпеня м.г. Кунцэвіч кінуў некалькі словаў пра існаванне „белавежцаў". Публікуючы штотыднёвымі ўрыўкамі вопіс літаратуры ПНР. Пры нагодзе ўспомніў я Аляксея Казбярука, земляка Барскага. Беларускага асімілянта, паэта, які даволі высока зайшоў у палітычнай паліцыі, крыху прывар'яцеў і цяпер, здагадваюся, на добрай пенсіі ён.

Нейкія пісьмы ад нейкіх чытачоў. Адказваю ім, хоць гэта толькі дурата.

Пазвоньвае Надсон. З „Archiúnaha ssytka" перавыдаў ён асобна ліст Чарняўскага, як я ўжо раней згадваў, і рассылае яго — таксама — у рэдакцыі газет, якія паднялі патрэбны шумок. Едзе ў Рым, спадзеючыся нечага дабіцца на гэтай хвалечцы. Ну, успамагай яго Бог! Аргументы, сапраўды, ёсць у гэтым тэксце. Але, ці палічыцца хто з імі, калі вернікі маўчаць?

У Тамары Ціунчык, кіраўнічкі „Pewex". Вельмі ж беларуская яна патрыётка! Можа і напраўду? У „Ніве" часта бывае.

**24-04-1988 г.**

У „Палітыцы" публікуе Тамашэўскі яшчэ адну падборку лістоў да яго як аўтара „Mniejszości są wśród nas". У рубрыцы „Listy" — цікавы допіс пра чатырохмоўе ў даваеннай БССР.

Паседжваю над кніжкай „Іскрам". Усё не надта ведаю, як фармальна вырашыць яе, хоць канцэпцыя ўжо склалася як быццам...

У „Ніве" — маё „На захадзе Польшчы" і, сугучны гэтаму, допіс Іванава. — Пішу ў ЦК КПБ, каб выратаваць выданне „Самасея". Здаецца, у добры час...

Аўтографы калекцыянеру Марку Рудніцкаму (W-wa, Gajkowicza, 13-53).

**25-04-1988 г.**

Спозненая, з мінулагодняй нумарацыяй 3/87„Białostocczyzna" — новы штоквартальнік — змяшчае ажно дзве рэцэнзіі на „Białoruś,Białoruś": гаркаватую і саладкаватую... Указваючы на памылкі, самі дапускаюць іх нямала, гэтыя рэцэнзійнікі са складам думак ліцэістаў. Маецкі паўтарае — пра беларусаў — царскія глупствы!

Успомнілася мала патрэбная мая сустрэча (21-га) з ліцэістамі ў бельскім БГКТ: непадрыхтаваная, з выпадковымі ведамі пра Беларусь. Часта ў нас такія. Ізноў даю зарок больш не ехаць!

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— „Саборнае Пасланьне" — на беларускай мове было прачытанае святаром у Вялікдзень, пасля багаслужбы ў Магдалінскай цэркаўцы ў Беластоку;*

*— „Паксе" — „Рах" (ад лацінскага: мір) — гэта каталіцкая арганізацыя, якая карысталася падтрымкаю камуністаў; яе ідэястваральнікам — Сяргей Пясэцкі;*

*— „Białaruskich Dakumentaúí" — „Bielaruskija Dakumenty", перыёдык падпольнага Беларускага незалежнага выдавецтва; усіх нумароў выйшла чатыры;*

*— Кунцэвіч — Пётр Кунцэвіч, вядомы польскі літаратуразнавец і гісторык літаратуры;*

*— Казбярука — Аляксей Казбярук, польскі паэт родам з ваколіц Юшкавага Груда, які спачатку пісаў па-беларуску;*

*— Надсон — Алесь Надсон, Апостальскі візітатар для беларусаў на чужыне, дырэктар лонданскай Бібліятэкі і Музея імя Францішка Скарыны; беларускі вучоны і дзеяч у эміграцыі;*

*— Чарняўскага — Уладзіслаў Чарняўскі, ксёндз у Вішнёве, што за Маладзечнам, які першым пасля вайны пачаў адпраўляць багаслужбы па-беларуску і выступаць за беларусізацыю касцёлаў;*

*— Маецкі — Генрык Маецкі, беластоцкі гісторык.*

********************************************************




## *Святы Міна, епіскап полацкі*

Першая на беларускіх землях епархія паўстала ў Полацку ў 992 годзе. На жаль, мы не ведаем імя першага полацкага ўладыкі. Першы нам вядомы епіскап гэта Міна, які быў назначаны на кафедру ў 1105 годзе. Урачыстая хіратонія з удзелам кіеўскага мітрапаліта Нікіфара адбылася 10 снежня. Чатыры гады раней памёр полацкі князь Усяслаў — творца магутнасці і незалежнасці Полацка — ініцыятар пабудовы царквы св. Сафіі. Полацкая святыня будавалася візантыйскімі майстрамі. Царкве патрэба было шмат адукаваных людзей. Пра асвету іх дбаў сам князь Усяслаў. Ужо Усяславага дзеда Ізяслава Уладзіміравіча летапісы называлі „князем-кніжнікам". Унук быў годным яго прадаўжальнікам. У ліку яго вучняў быў пазнейшы святы Міна.

Пасля смерці Усяслава полацкім князем стаў ягоны сын Барыс-Рагвалод. Адной з першых яго пастаноў быў выбар Міны на полацкае епіскапства. Міна, адданы веры хрысціянскай і княжацкай сям'і, лагодзіць варожасць між братамі Барыса: Усяславам, Давыдам, Глебам, Раманам, Святаславам і Расціславам. Уладыка Міна садзейнічаў развіццю хрысціянскай веры ў глыбі балцкіх земляў. Гавораць аб гэтым надпісы на „барысавых каменях", якія звязаны з вайсковымі паходамі князя Барыса на яцвягаў і земгалаў. У след за паходамі пашыралася хрысціянская вера. Святы Міна быў арганізатарам першых праваслаўных цэркваў на падбітай полацкімі князямі тэрыторыі.

Святы Міна памёр 20 ліпеня 1116 года. Мошчы яго былі пахаваны ў старажытнай царкве св. Спаса, а ў



1125 годзе перанесены ў Спаскі манастыр. Праваслаўная Царква кананізуючы епіскапа Міну, падкрэсліла ягоную ролю ў развіцці веры хрысціянскай і пазіцыю Праваслаўнай Царквы ў грамадскім і палітычным жыцці. Святы Міна дапоўніў, такім чынам, аскетычныя подзвігі прападобных, мучанікаў, блажэнных, даючы свайму народу і вернікам прыклад дарогі да святасці і збаўлення.

**АНТОСЬ МІРАНОВІЧ**

# МАСТАЦКІ „КАТАРСІС"

**( Працяг са стар. 1 )**

прымаць удзел у выстаўцы мастакі з Гомеля і Гародні, але не даехалі па розных прычынах. На гэты раз ужо не было праблем з пераязненнем карцін цераз мяжу. Апрача Р. Лойкі на вернісажы нікога з аўтараў працаў не было. З іншых беларускіх мастакоў сярод гасцей былі Нінэль Шчасная і Вячаслаў Захарынскі.

На адкрыцці выставы прысутнічалі прадстаўнікі Каталіцкага касцёла (біскуп Эдвард Кісель), Праваслаўнай царквы, Ваяводскай управы ў Беластоку.

— Гэта выстаўка выдатна сведчыць аб тым, што культутрны абмен між Польшчай і Беларуссю, Беласточчынай і Беларуссю — плённы і каштоўны, — сказаў беластоцкі віцэ-ваявода , пасол Аляксандр Усакевіч. — Я вельмі рады, як і ўсе мы, такому мерапрыемству ў нашым горадзе, якое спалучае людзей розных веравызнанняў і нацыянальнасцей.

У беларускіх масткоў былі і раней кантакты і з беластоцкімі гледачамі, і з мастакамі — з Саюзам мастакоў, з БВА. Тут мелі выстаўкі Нінэль Шчасная, Вячаслаў Захарынскі, Міхась Карпук (на сённяшняй выстаўцы ёсць і яго працы).

— На гэтай невялікай выстаўцы паказаны вельмі розныя майстры, але кожнага з іх аб'ядноўвае жаданне паказаць сваё светаадчуванне, той боль і смутак за тое, што мы бачым у сучасным жыцці, — кажа Рыгор Лойка. — Прапануючы вобраз зруйнаваных і адбудаваных праваслаўных і каталіцкіх святынь, мастакі прапануюць гледачу сувязь з удзельнікамі абнаўлення духоўнай спадчыны. Вынікам забыцця простых чалавечых ісцін з'явіўся „духоўны Чарнобыль", духоўны занепад вялікай колькасці людзей. Але мастакі ўбачылі і абнаўленне духоўнасці ў народзе — гэта ў першую чаргу патрэбнасць абнаўлення веры як маральнай падставы і проста людскіх ісцін. Адраджэннем духоўнасці ў мастацтве можа быць і зварот мастакоў да прыгажосці прыроды, і духоўнай прыгажосці Чалавека. Таму тут так многа партрэтаў людзей, якія павінны несці да людзей зарад духоўнасці і чалавецтва. Назву „Катарсіс" — „Ачышчэнне" трэба разумець як зачын мастакоў для самаачышчэння праз веру і мастацтва. Тое, што мілае сэрцу, паказваем на Беласточчыне ў першую чаргу, таму што тут ёсць людзі, якія нам блізкія па сэрцу і па духу.

**МІРА ЛУКША**






( Працяг са стар. 4 )

ў нейкай патаемнай змове, мэтай якой „ампутаваць тэрыторыю беларускай нацыянальнай меншасці". Толькі апантаны пыхай і пагардай да свайго народу можа ўпэўніваць, што яднанне людзей незалежна ад іх нацыянальнасці пры Царкве служыць „украінізацыі Бельшчыны ды Гайнаўшчыны". Жыхары гэтых земляў на працягу 1000 гадоў нягледзячы на цяжкія часы і трагічныя варункі захавалі сваю веру і нацыянальнасць. Яны таксама паказалі, што патрапяць цвяроза ацаніць людзей і сітуацыю. Апошнія выбары пераканаўча тое даказваюць.

Вядома, С. Яновіч і згуртаваныя пры ім людзі будуць вышукваць усё новыя прычыны свайго татальнага паражэння ў выбарах. Ужо цяпер відаць, што яны нават не маюць намеру зрабіць якія-небудзь вывады з пагрому і рыхтуюцца весці беларускі рух да „новых перамогаў". Ці маладыя, шчыра адданыя гэтаму руху людзі дазволяць яшчэ раз сябе ашукаць? Як дагэтуль дык не відаць у іх выцверажэння. Замест працы ў сваіх асяроддзях дзеля дабра Царквы, культуры, беларускай мовы правадыр Беларускага дэмакратычнага аб'яднання паказвае ім важнейшы цэль — барацьбу супраць адзінага праваслаўнага беларуса ў Сейме.

Падчас апошняй выбарчай кампаніі я рабіў стаpанні пра супольны ўдзел у выбарах усіх праваслаўных у Польшчы. У перамовах з прадстаўнікамі Беларускага выбарчага камітэта я абараняў пункт гледжання, што ў такім палажэнні, калі нас мала, а праваслаўныя належаць да розных нацыянальнасцей, таму неабходны кампраміс і ўспрыняццё Праваслаўя як яднаючага нам элементу. З думкай пра нашых братоў украінцаў і лэмкаў з усяе Польшчы прапанаваў я назву супольнага камітэта: „Выбарчы камітэт праваслаўных беларусаў, украінцаў і лэмкаў", прапанаваў і некалькі іншых назваў, між іншым, „Выбарчы камітэт „Пагоня" — усё з думкай пра захаванне універсальнасці Праваслаўя ў нацыянальных справах. Тое, што прадстаўнікі Беларускага выбарчага камітэта гэтыя мае прапановы адкідалі, настойліва дамагаючыся, каб у назве засталося толькі слова „беларускі" і можа з дадаткам „праваслаўны", але гэта было іх вольнае права. У гэтых перамовах удзельнічала многа людзей, на апошняй, вырашальнай сустрэчы, між іншым, былі В. Стахвюк, М. Целушэцкі, В. Сельвесюк. Таму і не цяжка даказаць, што сцверджанне С. Яновіча аднosна супольнага камітэта, быццам бы „не можа ён мець у сваёй назве анічога яўна беларускага" — гэта звычайнае лгунства.

Калі рэдакцыя „Нівы" зацікаўлена справаздачай з гэтых перамоваў, тады нехта з названых асобаў можа яе аб'ектыўна прадставіць. Магу зрабіць тое і я. Аднак лічу, што прабіў час адкінуць узаемную варожасць і прэтэнзіі. Людзі чакаюць ад нас праўдзівай, шчырай працы. Асабіста я ні з кім не спаборнічаў за ролю ў беларускіх арганізацыях. Настолькі

( Працяг на стар. 8 )

# ПРАДАВАЦЬ ЗБОЖЖА МОЖНА

У бюро фірмы „Амега" ў Бельску-Падляшскім тэлефоны не сціхаюць. А то адсюль нехта набірае нумар Беластока, Граева ці Аполя, а то сюды хтосьці званіць з Гайнаўкі, Бранска ці Замосця. Амаль усе размовы датычаць аднае справы — скупкі збожжа гэтай фірмай. Пачалася яна недзе ў палове лістапада і ў пачатку снежня ішла ўжо поўным ходам. Збожжа не залежвалася ў магазінах, амаль адразу з прычэпаў гаспадароў загружвалася на вагоны і накіроўвалася на Беларусь.

Прынамсі так робіцца ў ПЗЗэтаўскім (Дзяржаўныя збожжавыя прадпрыемствы) элеватары ў Бельску-Падляшскім — адным з пунктаў, дзе вядзецца скупка для „Амегі".

Каля чыгункі з Бельска ў Чаромху і Гайнаўку (далей ў Семяноўку) на адным пляцы стаяць два элеватары. Большы, збудаваны чэхамі, можа змясціць у сабе 25 тысяч тон зерня, меншы — польскі— умешчвае 7 тысяч тон. Да пачатку снежня прынялі яны 11 тысяч тон жыта і амаль тысячу тон пшаніцы. Як відаць, большы элеватар не выкарыстоўваўся нават у палове.

Гэтыя элеватары зусім новыя — сёлета ўпершыню засыпалі ў іх збожжа. Трэба ўважна і пастаянна сачыць за тэхнікай, дакручваць адпаведныя шрубкі, мяняць механізмы, якія не спрацоўваюць. І гэта робіцца неадкладна, хаця працуе тут усяго, разам з адміністрацыяй, 25 чалавек. Слухаючы выказванні рабочых з'яўляецца ўражанне,што сутыкаешся з тэлевізійнай прапагандай сямідзесятых гадоў — у іх словах прабіваецца сапраўдны гонар за месца працы, за тэхнічныя прыёмы, эфектыўнасць машын. Аж неверагодна, тым больш, што заробкі тут ненадзвычайныя, усяго да нейкіх паўтара мільёна.

У бельскіх элеватарах поўная механізацыя, ніхто тут не махае шуфляй — гэта паўтараюць усе і па некалькі разоў. Гаспадар прывозіць збожжа, важыць яго разам з прычэпай, потым высыпаюць у аграмадны кош (мінута — падняць борт і ўсё), з якога спецыяльным рукавом зерне ідзе ў вагон (57-тонны вагон запаўняецца за 25 мінут)... Дарога можа быць і адваротная — з вагона ў прычэпы. Агульная здольнасць адной лініі прыняць, перасыпаць і засыпаць: 120 тысяч тон збожжа ў гадзіну. Такіх ліній пяць, але дасюль выкарыстоўваліся толькі дзве.

— Крыху пазнавата ажыццявіліся дагаворы фірмы „Амега", — кажа Аляксандр Кірылюк, які падчас адсутнасці дырэктара Рыгора Сулімы выконвае яго абавязкі, — можна было б прыняць тут намнога больш збожжа. Да гэтай пары куплялі мы яго толькі ПЗЗэтам, ад жніўня ж прайшло нямала часу. Ну, але справа раскручваецца і, фактычна, кожны жадаючы прадаць пшаніцу можа яе смела прывозіць да нас. Плоцім па 70 — 80 тысяч злотых за цэнтнер (за жыта плацілі да 45 тысяч, але ўжо практычна не прымаем). За спецыяльны гатунак пшаніцы плоцім і па 82 тысячы, але пра гэта бадай не варта гаварыць, бо сам ведаю, што тут такога зерня амаль няма. Затое да іншых гатункаў вельмі не прыглядаемся, няма затым чаго палохаць людзей нейкімі нормамі. Пакуль ад нас не патрабуюць іх за



*Аляксандр Кірылюк увесь час у руху.*

# КУЛЬТУРНА - АСВЕТНЫ СЕЗОН БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

Для арганізацыі беларускай культуры ў Польшчы ў гэтым годзе ў выключным распараджэнні БГКТ было адзінаццаць адміністрацыйна-тэхнічных і мерытарычных штатаў у Беластоку, Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім, Дуброве Беластоцкай, Варшаве і Гданьску. У гэтых гарадах (за выключэннем Дубровы) БГКТ арэндуе памяшканні, а ў Беластоку — будынак. Ад студзеня 1990 года на штаты і чыншы нельга выдаткоўваць грошай з дзяржаўных датацыяў. Поўнасцю датаванымі могуць быць толькі ўстановы, а не арганізацыі. У такой сітуацыі адзіным ратункам для беларускай культуры, па-мойму, будзе як найхутчэйшае стварэнне цэнтра беларускай культуры. На персанальную і мерытарычную палітыку такой установы ўплыў мела б толькі Рада беларускіх арганізацыяў. У падобных польскіх культурных установах у нашым рэгіёне працуе звыш 800 чалавек.

Апошні культурна-асветны год беларускай меншасці ў Польшчы пачаўся 15 кастрычніка 1990 года, а планаванне і правядзенне мерапрыемстваў былі ўзложаны ў рукі штатных працаўнікоў БГКТ. Вось вынікі:

### Матэрыяльная база

У Таварыстве да таго часу была зношаная „Волга", піяніна, некалькі акардэонаў, старая радыёапаратура, канторскане абсталяванне, пішучыя машынкі і даўно забытыя кінапраектары.

Пасля году працы мне стала зусім зразумела, што без стварэння матэрыяльнай базы немагчыма захаваць культуру і развіваць яе новыя формы. Таму галоўным мы палічылі здабыццё фінансавых сродкаў для набыцця друкарні, відэастудыі, музычнай узмацняльнай апаратуры, ксераксу, абсталявання кавярні і транспарту (аўтобус, мікрааўтобус, „Паланез"). Шматмесячная баталія (тэлефоны, пісьмы і выезды ў міністэрства) аплацілася. Мы атрымалі звыш тры мільярды злотых. Удалося здабыць мільярд злотых на пабудову Музея. Снежань 1990 і студзень 1991 г. — гэта ліхаманкавыя пошукі магчымасцяў разумнага выкарыстання гэтых сродкаў. Як ніколі дружна працавалі тады штатныя беластоцкія працаўнікі. Існавала пагроза, што калі нічога не купім, прыдзецца звярнуць грошы. Паралельна праводзілася змена інтэр'еру і абсталявання будынку ГП. У 1991 г. куплена ўсяго больш, чым за ўсе ранейшыя гады існавання Таварыства. І не таму, — як некаторыя кажуць, — што нам далі. Таму, што мы разумеючы іх неабходнасць, мелі адвагу аргументавана дамагацца. Мы грамадзяне краіны, як і ўсе. І пакуль, на культуру будуць бюджэтныя сродкі, не можа іх не хапіць і на нашу.

### Асветная дзейнасць

Наша супрацоўніцтва са школьным асяроддзем у большасці было абмежавана да супольнага правядзення конкурсаў і арганізацыі летняга адпачынку. І так:

1. У снежні 1991 года адбыўся дэкламатарскі конкурс. У раённых элімінацыях прыняло ўдзел звыш 100 дзетак. У фінале выступіла 49 вучняў.
2. У лютым — красавіку 1991 г. у Гайнаўскім доме культуры быў праведзены конкурс сцэнічнай дзейнасці школьнікаў. Прыняло ўдзел 12 дзіцячых тэатраў.
3. У красавіку — маі быў праведзены агляд беларускай песні для школьнікаў. Адбыліся раённыя агляды ў Кляшчэлях, Гайнаўцы і Бельску. Цэнтральны агляд праводзіўся ў Бельскім доме культуры. Прымалі ўдзел у ім удзел таксама дзеці з Гданьска і Беластока. Толькі ў цэнтральным аглядзе ўдзел прынялі 15 малых вакальных груп, 8 калектываў, два вялікія хоры (Ляўкова і Бельск), 16 салістаў. Упершыню быў арганізаваны канцэрт лаўрэатаў.

У падыходзе да асветных праблем паявілася таксама шмат новага. Змены ў краіне закранулі і асвету, стала ясна, што беларускія арганізацыі павінны стварыць парасон над беларускім школьніцтвам . 14 чэрвеня 1991 года ў Бельску, на настаўніцкай канферэнцыі ўзгоднена, што без удзелу беларускіх арганізацыяў не будуць праводзіцца ніякія змены. З гэтай мэтай быў створаны калектыў да кантактаў з асветнымі ўладамі, між іншым для вырашання персанальных пытанняў. З яго ўдзелам у канцы жніўня 1991 г. быў выбраны дырэктар школы ў Орлі. На жаль, ва ўсіх іншых прыпадках, выкарыстоўваючы нашы ўнутрыбеларускія сваркі, асветныя ўлады свядома парушаюць дамоўленасць.

Да 1990 года БГКТ супрацоўнічала галоўным чынам з таварыствам „Радзіма" ў Менску.

ўсходняй мяжой, дык і мы прыплюшчваем вочы, скажам, на працэнт вільготнасці. Ну, хіба, што нехта прывязе ўжо пратухлае.

Элеватар у Бельску працуе ад гадзіны сёмай да трэцяй пасля поўдня. Абслугоўвае кліентаў быстра — чаргі ніякай няма. Калі з'явіцца такая патрэба, людзі будуць працаваць на дзве змены. Усё дзеля апраўдання дэвіза: кліент — наш пан.

Адна з большых праблем сялян Бельшчыны — дзе прадаць збожжа — здаецца быць развязанай (прынамсі, калі гаварыць пра пшаніцу). Другая справа, гэта цана збожжа, ці яна дастатковая, ці не. Кожны купец плоціць столькі, каб і яму нешта засталося. На сённяшні дзень, бадай ніхто на Беласточчыне за збожжа больш не заплоціць. Прадаючы ў бельскім элеватары, прынамсі грошай не трэба доўга чакаць — больш-менш дзесяць дзён. А хто хутка дае, той дае два разы.

Асцеражнейшыя прыязджаюць спярша, каб прыглядзецца, параўнаць з іншымі месцамі скупкі, абмеркаваць цану. І наогул вяртаюцца ў бельскі элеватар з прычэпамі.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
Фота аўтара



*Меншы элеватар, бачаны з даху вялікага чэшскага ( 52 м. ).*

## ЧЫТАЮЧЫ „ІМГНЕННІ"

У гэтым годзе паявіліся „Імгненні" — першая кніжка Янкі Целушэцкага. Светаўспрыманне аўтара дасканала раскрывае лірычная проза, прысвечаная харастdу нашай беластоцкай раўніны. З захапленнем чытаем аб восені і зіме, аб вясне і леце, аб зменах у вечна прыгожай прыродзе. Аўтар піша мовай, у якой: „словы-пахі, словы-колеры. словы-гоман". „Словы—музыка" — хочацца дадаць.

У Ляўкове здаўна цудоўна спяваюць беларускія песні. Існуе тут хор, якім кіруе дваюрадны брат Янкі, Васіль. З яго і спісаны партрэт скрыпача Паднарэўскага, якога, „скрыпка была то голасам птушкі на фоне бясконцага ляснога шуму, то шапаценнем сцяблінак збожжа перад жнівом".

Здаецца, што аўтар (цяпер жыхар Беластока) хоча аддаць даніну пакінутай вёсцы. У яго замалёўках бачым жніво, сялян, рэчку і лес, і першае каханне.

Чалавек, на думку аўтара, з'яўляецца маленькай часткай велізарнай прыроды, ад якой бярэ і святло, і цяпло, і радасць. „Стаіш пад шатамі начнога неба і сэрца б'ецца лёгка, спакойна. Так жа прасветлена і вольна на душы". Ад гэтага пантэізму светла робіцца і на душы чытача.

Апавяданні Янкі Целушэцкага паявіліся таксама на старонках „Голасу Радзімы". Вельмі цікавае апавяданне „Апошні след". Яно напісана ў псіхалагічным плане. Сцяпан — герой апавядання, пакалечаны вайной. Ён не бачыць сэнсу далейшага жыцця.

Проза Целушэцкага аптымістычная, жыццярадасная. Варта яе чытаць, жадаючы аўтару новых, творчых дасягненняў.

**М. ВАРАНЕЦКІ**

## РАДНЫ ГОРАДА І ГМІНЫ ЗАБЛУДАЎ

Магістр інжынер Міраслаў Максімюк ажаніўся з дзяўчынай з Рыбалаў Люцынай Вішнеўскай. Жывуць яны цяпер з бацькамі, маюць дзве дачкі ў дашкольным узросце. Міраслаў абжыўся ў Рыбалах, карыстаецца даверам і павагай суседзяў. Мясцовая грамадскасць абрала яго радным горада і гміны Заблудаў. Ён добра прадстаўляе інтарэсы выбаршчыкаў і цэлае гміны. Працуе кіраўніком геадэзіі ды, адначасна, намеснікам бурмістра. У сваёй працы прараўляе вялікі арганізацыйны спрыт. Апрача гэтага, мае ён невялічкую гаспадарку, на якой, „падлкацыўшы рукавы" працуе пасля сваіх службовых абавязкаў. Праца на зямлі для яго не навіна, на вёсцы ж ён нарадзіўся і выхаваўся. Вёску вельмі любіць.

Рыбалы размясціліся паабапал мітуслівай шашы Беласток — Бельск-Падляшскі. Даволі часта здараліся тут выпадкі, пад коламі машын гінулі людзі. Каб павялічыць бяспеку людзей, радны М. Максімюк супольна з настаяцелем мясцовага прыхода а. Рыгорам Сасною, запрапанавалі палажыць тратуары. Управа гміны прыхілілася да прапановы, знайшліся на гэта сродкі.

У 1990 годзе прыехала ў Рыбалы спецыяльная рабочая брыгада і пачала працу. Пасля зімовага перапынку, у 1991 годзе будова тратуараў працягвалася. Вуліца ўжо амаль у палове мадэрнізавана. Каля царквы св. св. Кузьмы і Дзям'яна зроблена стаянка для машын.

Застаецца толькі пажадаць нашаму раднаму многа здароўя ды поспехаў у працы на карысць грамадства.

**УЛАДЗІМІР ГУРАЛЕЎСКІ**

***

Да нармальнага развіцця беларускасці на Беласточчыне неабходны поўны абмен з Беларуссю на ўсіх узроўнях. Узнікненне новых арганізацыяў дазволіла пашырыць кантакты, ладзіць дзесяткі сустрэч, спектакляў, канцэртаў, кінапраекцыяў таксама і ў школьным асяроддзі. Прыязджалі да нас пісьменнікі, журналісты, вучоныя, дэпутаты, дзеячы арганізацыяў і прадстаўнікі ўраду Беларусі.

Выканалі мы шэраг намаганняў, дзеля прыёму нашай моладзі ў навучальнай ўстановы Беларусі. Пасля многіх сустрэч у маі прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў падпісалі пагадненні з пяццю міністэрствамі Беларусі, аб штогадовым прыёме 33 студэнтаў. Сёлета паехала вучыцца 24 асобы. Зараз на самых розных напрамках вучацца 44 студэнты.

Штатны калектыў не адмовіўся таксама ад арганізацыі летняга адпачынку дзяцей. Сёлета ў Беларусі адпачывалі:

1. 30 лаўрэатаў конкурсаў, па запрашэнню Гарадскога бацькоўскага камітэту ў Менску. Яны ставілі пяць спектакляў у Менску.
2. 40 дзетак у Бераставіцы на Гродзеншчыне, па запрашэнню Беларускага фонду культуры.
3. 30 дзетак у летніку „Чайка" каля Менска і 25 асоб у летніку „Грунвальд" на Міншчыне па запрашэнню ГБК і ТМБ. З увагі на путч абедзве групы прышлося вярнуць на тры дні раней.

Гасцявала ў Менску і 20-асабовая група старэйшай моладзі з „Парнасу", па запрашэнню тэатра „Жывога слова" з Педагагічнага інстытуту. Выступалі яны са сцэнічнай праграмай у студэнцкім асяроддзі.

Паявілася цалкам новая ініцыятыва, якая хутка знайшла прыхільнікаў сярод гданьскіх дзячоў. Прыстасавалі мы нашы памяшканні ў Гданьску на часовы інтэрнат. Такім чынам, канікулы ў Гданьску правяло 30 дзетак.

Для параўнання: у 1989 годзе БГКТ арганізавала адпачынак для 5 дзетак, у 1990 годзе — для 135,у 1991 — для 175.

**Культурныя мерапрыемствы**

Дзеля падтрымання жывой зацікаўленасці беларускай тэатральнай культурай мы арганізавалі на Беласточчыне шэраг спектакляў. Выступаў лялечны тэатр з Гародні з п'есай Янкі Купалы „Тутэйшыя". Прэзентаваўся таксама ў вёсках і ў школьным асяроддзі тэатр „Жывое слова" Педагагічнага інстытута з Менска. У гэтым сезоне было арганізавана 18 спектакляў (у мінулым годзе 20).

Непараўнальна ажывілася музычная культура, з'явіліся новыя формы яе прэзентацыі.

16—17 лютага праведзена агляд беларускай песні. У беластоцкай філармоніі адбыліся конкурс і два канцэрты лаўрэатаў з удзелам „Церніцы" з Беларусі.

22 чэрвеня ў Бельску на стадыёне канцэртаваў аркестр Міхася Фінберга і салісты беларускай эстрады. 23 чэрвеня ў беластоцкім амфітэатры праводзілася „Свята беларускай песні". Акрамя лаўрэатаў агляду беларускай песні выступілі госці з Беларусі: самадзейны калектыў з Вілейкі, „Новае неба" Касі Камоцкай, аркестр беларускага радыё і тэлебачання пад кірункам Міхася Фінберга і салісты эстрады.

У Белавежы праводзілася ноч Купалы. Удзел прымалі калектывы з Беласточчыны і госці з Беларусі.

Паміж вялікімі музычнымі мерапрыемствамі былі арганізаваны канцэрты ў беларускіх вёсках і мястэчках. Існаваў непасрэдны абмен паміж калектывамі Беласточчыны і Беларусі. „Новае ў беларускай музычнай культуры" — гэта тое, што разумеючы як важным для захавання беларускасці ёсць уключэнне ў працэс яе ратавання моладзі, мы мэтанакіравана адышлі ад прэзентацыі выключна фальклорных форм музыкі. На фестывалі беларускай песні ў Беластоку (1990) упершыню выступілі беларускамоўныя рок-гурты, сучасны „Тэатр мод" са спектаклем „Крэда".

Думаю, што самае важнае музычнае свята арганізуе моладзь з БАСу. Гэта „Басовішча", якое праводзіцца ў выключна нацыянальным беларускім клімаце. Мы аказалі толькі невялікую фінансавую і матэрыяльную (транспарт) дапамогу.

Новае таксама паявілася ў падыходзе да музычнага мастацтва дзяцей. 2 чэрвеня 1991 у Беластоцкай філармоніі мы арганізавалі канцэрт лаўрэатаў дзіцячай песні, пад лозунгам „Дзеці дзецям".

Як прамоцыю талентаў трэба разумець і выступленні нашай салісткі Алы Дубец з аркестрам Міхася Фінберга. Канцэрт у Менску быў паказаны па тэлебачанню. 12 кастрычніка, разам з найлепшымі рок-гуртамі ў Менску выступіла „Альбаросіка". Канцэрт быў прысвечаны незалежнасці Беларусі і трансліраваўся па тэлебачанню. У першай праграме польскага тэлебачання выступіла Марта Драль.

У лістападзе 1990 года мы рызыкнулі арганізаваць першы ў свеце агляд беларускамоўнага мастацкага фільму. Гледачоў знаёмілі са сваімі фільмамі рэжысёры сцэнографы, аператары. На Беласточчыне было арганізаваных звыш 20 кінапраекцый.

У гэтыя канікулы праводзілася інвентарызацыя помнікаў беларускай духоўнай архітэктуры — драўляных цэркваў. У ліпені студэнты з акадэміі мастацтва ў Мінску выканалі архітэктанічную дакументацыю цэркваў у Міхалове і Новай Волі і іх дакладныя макеты, якія даюць пачатак музейнаму фонду сакральнай культуры.

У заключэнні хачу адзначыць, што мы арганізацыйна ўдзельнічалі ў шэрагу іншых мерапрыемстваў, такіх як выстаўкі, семінары, сустрэчы з насельніцтвам Беласточчыны, вандроўкі моладзі. Удзельнічалі таксама ў арганізацыі прабывання дзяцей з чарнобыльскай зоны. Некаторыя з нас прысутнічалі ў арганізацыі выбараў. Дзеля гэтага праводзілася дзесяткі сустрэч з насельніцтвам. Адна сфера аставалася па-за актыўнасцю штатнага калектыву — рэанімацыя гурткоў і аддзела БГКТ. Асталіся, асабліва ў гарадах беларускія дзеячы, гатовыя ахвярна працаваць ў карысць беларускасці. Найбольш актыўныя ўсё ж такі астаюцца настаўнікі і актыў самадзейных калектываў. На іх трымаецца і ўся беларуская праца.

**ВІКТАР СТАХВЮК,**
**былы сакратар ГП БГКТ**




( Працяг са стар. 6 )

наколькі здолею, прагну працаваць дзеля гуртавання людзей пры Царкве, так як я гэта рабіў усё сваё дарослае жыццё. У Сейме і ў грамадскай дзейнасці як толькі змагу, буду дапамагаць беларускай справе.

Да Вас, Рэдактар, звяртаюся з просьбай. На Вас як галоўным рэдактары адзінага беларускага часопіса ў Польшчы лажыцца адказнасць за многія справы ў гэтым асяроддзі. Лічу Вас асобай, якая здольная супрацьпаставіцца разнастайным націскам і спыніць змяшчанне ў „Ніве” тэкстаў, якія ганьбуюць нас саміх і якія пішуць розныя разачараваныя і ашуканыя ў сваіх амбіцыях „правадыры”.

У снежні 1990 года тадышні Урад склаў Сейму прапанову ўстрымаць дафінансаванне „Нівы”, а гэта значыла яе фактычную ліквідацыю. Каб Урад адмовіўся ад свайго намеру, я ўнёс свой немалы ўклад стараннаў. Верыў я, што ў нашых умовах „Ніва” будзе служыць усім нам, таксама такім, як я беларусам, якія не атаясамліваюцца з поглядамі спадара С. Яновіча. Спадзяюся, што таксама і Вы пажадаеце глянуць шырэй на нашу супольную „малую Айчыну”.

**З пашанай**
**— ЯЎГЕН ЧЫКВІН**

**Ад рэдактара:** Хачу, з поўнай адказнасцю, заявіць, што рэдакцыя не вядзе ніякай прадузятай кампаніі супраць Вас. Матэрыялы з заўвагамі ў Ваш адрас прадстаўляюць толькі і выключна погляды аўтараў і нельга іх атаясамліваць з поглядамі рэдактара ці рэдакцыі. Можна пайсці шляхам, які, так я зразумеў, прапануеце: не пускаць у друк матэрыялаў, якія б маглі выклікаць незадаволенне той ці іншай асобы, вядомай у нашай грамадскасці. У такі спосаб можна толькі паправіць самаадчуванне некалькіх асоб, аднак пытанні астануцца далей нявырашанымі. Публікацыі, якія абураюць не толькі Вас, гэта не прычына, а вынік раз'яднання беларускага асяроддзя. Гэтае раз'яднанне ўплывае на грамадскія настроі, ценем кладзецца на ўсе сферы грамадскага жыцця, у тым ліку і на публікацыі некаторых дзеячоў. Мая мара — дачакаць таго часу, калі правадыры ўсіх арганізацый, якія працуюць у беларускім асяроддзі, стануць мірна супрацоўнічаць для дабра агульнай справы. Але для гэтага патрэбна іх добрая воля.

За старанні ў справе „Нівы” вялікае дзякуй.

**Віталь Луба**

## РЭПЛІКІ НЕ БУДЗЕ

Рыхтуючы да друку гэтае выказванне Яўгена Чыквіна, рэдактар звярнуўся да мяне з прапановаю напісаць рэпліку. Я ахвотна згадзіўся. Але, аказалася, што палеміз ваць з ім не мае аніякага сэнсу.

Згода, да якое заклікае Чыквін, патрабуе дыскусіі на аргументы і факты, а не – хто каго перакрычыць.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# КНІЖНЫЯ ВЫДАННІ „БЕЛАВЕЖЦАЎ”

**(без іх перакладчыцкай творчасці)**

**Гэтая бібліяграфія з'яўляецца папаўненнем нарыса Яна Чыквіна „Беларускі літаратурны рух у Польшчы”, які друкаваўся ў папярэднім нумары „Нівы” (загалоўкі даюцца тлустым шрыфтам).**

**1959**
1.**Рунь.** Беласток (альманах).
**1961**
2. Станіслаў Вагурка, **Дзядзька Лявонь.** Беласток (зборнік фельетонаў).
**1962**
3. Алесь Барскі, **Белавежскія матывы.** Беласток (зборнік паэзіі).
**1963**
4. **Мой родны кут.** Беласток (альманах).
**1964**
5. Яша Бурш, **Прамень думкі.** Беласток (зборнік паэзіі).
**1965**
6. **Белавежа 1.** Беласток (альманах).
**1967**
7. Алесь Барскі, **Жнівень слоў.** Беласток (зборнік паэзіі).
8. Віктар Швед, **Жыццёвыя сцежкі.** Беласток (зборнік паэзіі).
1969
9. Сакрат Яновіч, **Загоны.** Беласток (зборнік апавяданняў).
10. Ян Чыквін, **Іду.** Беласток (зборнік паэзіі).
**1970**
11. Ян Чыквін, **Святая студня.** Беласток (зборнік паэзіі)
**1971**
12. Уладзімір Гайдук, **Ракіта.** Беласток (зборнік паэзіі).
**1972**
13. **Белавежа 2.** Беласток (альманах).
**1973**
14. **Літаратурная Беласточчына.** Мінск (альманах).
15. Sokrat Janowicz, **Wielkie miasto Białystok.**Warszawa(tom opowiadań).
**1975**
16. Віктар Швед, **Дзяцінства прыстань.** Беласток (зборнік паэзіі).
17. Алесь Барскі, **Мой бераг.** Мінск (зборнік паэзіі).
**1976**
18. Віктар Швед, **Дружба.** Мінск (зборнік паэзіі для дзяцей).
19. Юрка Геніюш, Сакрат Яновіч, **Зборнік сцэнічных твораў.** Беласток
**1977**
20. Ян Чыквін, **Неспакой.** Беласток (зборнік паэзіі).
**1978**
21. Sokrat Janowicz, **Zapomnieliska.** Warszawa (tom opowiadań).
22. Сакрат Яновіч, **Сярэбраны яздок.** Мінск (зборнік апавяданняў).
**1979**
23. Ірына Баравік, **Супраць ветру.** Беласток (зборнік паэзіі).
24. Міхась Шаховіч, **Святая ноч.** Беласток (зборнік паэзіі)
25. Nadzieja Artymowicz, **We śnie w bólu słowa.** Białystok (poezje).
26. Sokrat Janowicz, **Ściana.** Olsztyn (powieść ).
**1980**
27. **Белавежа 3.** Беласток (альманах).
**1981**
28. Надзея Артымовіч, **Роздумы.** Беласток (зборнік паэзіі).
29. Міхась Шаховіч, **Праміпанне.** Беласток (зборнік паэзіі).
30. Jerzy Geniusz, **Na początku było tylko słowo.** Białystok (poezje).
31. Sokrat Janowicz, **Samosiej.** Warszawa (powieść).
32. Sokrat Janowicz, **Małe dni.** Białystok (tom opowiadań).
**1982**
33. Зося Сачко, **Пошукі.** Беласток (зборнік паэзіі)
34. Мікалай Гайдук, **Аб чым шуміць Белавежская пушча.** Беласток (зборнік апавяданняў).
**1983**
35. Міхась Шаховіч, **Вада ў рэшаце.** Беласток (зборнік апавяданняў)
36. Алесь Барскі, **Блізкасць далёкага. Беласток** (зборнік паэзіі)
37. Jan Czykwin, **Na progu świata.** Warszawa (poezje).
**1984**
38. **Miniatures by Sakrat Janovič .** London (зборнік апавяданняў).
**1986**
39. Bazyli Pietruczuk, **Ściernisko.** Warszawa ( powieść).
**1987**
40. Алесь Барскі, **Лірычны пульс. Мінск** (зборнік паэзіі).
41. Васіль Петручук, **Пожня.** Беласток (аповесць)
42. Міхась Шаховіч, **Напевы.** Беласток (зборнік паэзіі).
43. Sokrat Janowicz, **Białoruś, Białoruś.** Warsząwa (eseje).
**1988**
44. Jan Czykwin, **Splot słoneczny.** Olsztyn (poezje).
**1989**
45. Ян Чыквін, **Светлы міг.** Мінск (зборнік паэзіі).
46. Юрка Валкавыцкі, **Рознагоддзе.** Беласток (зборнік паэзіі).
47. Мікалай Гайдук, **Ціш.** Беласток (зборнік паэзіі).
**1990**
48. Michał Szachowicz, **Woda w przetaku.** Białystok (tom opowiadań).
49. Надзея Артымовіч, **Сезон у белых пейзажах.** Беласток (зборнік паэзіі).
50. Уладзімір Гайдук, **Блакітны вырай.** Беласток (зборнік паэзіі).
51. Віктар Швед, **Мая зялёная Зубровія.** Мінск (зборнік паэзіі).
52. Mikołaj Hajduk, **Białowieskie opowieści.** Białystok ( opowiadania).
**1991**
53. Зося Сачко, **Над днём похіляна.** Беласток (зборнік паэзіі).
54. Віктар Швед, **Родны схоў.** Беласток (зборнік паэзіі).
55. Янка Целушэцкі, **Імгненні.** Беласток (зборнік апавяданняў).
56. Віктар Швед, **Вясёлка.** Беласток (зборнік вершаў для дзяцей).
57. Юрка Валкавыцкі, **Віры. Нататкі рэдактара.** Беласток (кніга ўспамінаў).
58. Васіль Петручук, **Пожня.** Мінск (аповесць).
59.Мікола Гайдук, **Трызна.**Мінск ( апавяданні).

Бібліяграфію склаў
**ЯН ЧЫКВІН**

****************************************************




**З дакументаў Генеральнага штаба (II Аддзела), Варшава 1928.**

(53)

Адначасна З'езд заклікае сялянскія масы беларускага народа да арганізацыйнай працы ў сувязі з надыходзячымі выбарамі ў Варшаўскі Сейм. Сяляне павінны памятаць, што пасылаючы толькі сапраўдных прадстаўнікоў беларускага народа ў Сейм Рэчыпаспалітай Польскай, змогуць паспяхова бараніць правы народа.

З'езд пастанавіў:

1) праявіць удзячнасць польскаму народу за вызваленне часткі беларускіх земляў з нявол маскоўскіх камуністаў,

2) цвёрда прытрымоўвацца ідэі спалучэння беларускага народа з польскім, прызнаючы польскую дзяржаўнасць і аўтаномію для Беларусі,

3) прыняць удзел і дзейнічаць сярод беларускага народа ў напрамку выбараў у Сейм Цэнтральнай Літвы і ў Варшаўскі Сейм Рэчыпаспалітай Польшчы,

4) дамагацца ўсімі сіламі спалучэння ў адну цэласць тых беларускіх земель, якія згодна з рыжскім трактатам былі аддадзены маскоўскім камуністам,

5)ставіцца з пагардай да тых, хто сее нязгоду ў беларускім народзе, і, прыкрываючыся яго іменем, праводзіць камуністычную агітацыю таксама і да тых, хто выступае ад імя беларускага ўрада ў Коўне, які не мае ніякай супольнасці з беларускім народам.

Палітычныя праціўнікі Алексюка аб'явілі рад пратэстаў проціў гэтага з'езда. Пратэставалі: Беларускі нацыянальны камітэт у Вільні, Карпарацыя студэнтаў-беларусаў, паасобныя аб'яднанні, а нават аддзельныя асобы, як напрыклад Сцяпура, які пачаткова быў сакратаром З'езду, а пасля перастаў удзельнічаць у сходзе.

З'зд выслаў у Варшаву дэлегацыю, якая прадставіла польскаму ўраду прынятыя рэзалюцыі.

Насіленая агітацыя проціў выбараў у Віленскі Сейм прымусіла ўрадавую камісію Цэнтральнай Літвы арыштаваць у начы з 19 на 20 студзеня 1922 г. трыццаць трох найбольш шкодных літоўскіх і беларускіх агітатараў. Былі імі: 1) Аўгустайціс Францішак, 2) Аургевіч Ян, 3) Біржышка Міхал, 4) Біржышка Віктар, 5) Дубіна Улас, 6) Дыша Язэп, 7) Грабоўскі Язэп, 8) Гарэцкі Максім, 9) Інсольда Пётр, 10) Яцкевіч Станіслаў, 11) Якубецкі Андрэй, 12) Карабач Аляксей, 13) Краскоўскі Ян, 14) кс. Кухта Язэп, 15) Купчык Зінаіда, 16) Ланцберг Чэслаў 17) Лемеш Вінцэнт, 18) Марцішэўская Марыя, 19) Міхалевіч Уладзімір, 20) Міцюнас Андрэй, 21) Мічуліс Пюс, 22) Мяшочак Тамаш, 23) Мілерыс Юры, 24) Няведамскі Палікарп, 25) Пракулевіч Уладзімір, 26) Палікша Аляксей, 27) Равідзіс Язэп, 28) Рагач Сяргей, 29) Рандаманскі Андрэй, 30) Сямяшка Ян, 31) Сладзевіч Баляслаў, 32) Шумас Ян, 33) Шульц Тадэўш.

Апрача гэтага быў праведзены вобыск у Беларускім нацыянальным камітэце ў Вільні, у Беларускай цэнтральнай школьнай радзе, у гімназіі, кнігарні і рэдакцыях беларускіх часопісаў. У канцы студзеня 1922 г. былі праведзены выбары ў Віленскі Сейм, у якіх прыняло ўдзел 64 % выбаршчыкаў.

Нягледзячы на вельмі энергічную перадвыбарчую агітацыю Алексюка, вынікі выбараў сведчылі аб зусім мізэрным уплыве гэтага палітыка на беларускую грамадскасць. На спісак Алексюка, зарэгістраваны ў двух выбарчых акругах, аддадзена ўсяго 2400 галасоў. Большасць беларускай грамадскасці пайшла за заклікам Беларускага нацыянальнага камітэта і не прыняла ўдзелу ў выбарах.

**(Працяг будзе)**

# Зорка
## старонка для дзяцей



*Дарагім чытачам „Зоркі", іх бацькам, сваякам і настаўнікам жадаем*

## у Новым годзе

*многа радасці, здароўя і шчасця!*

**********************

## ЗАГАДКІ

**Уладзімір Карызна**

Не болей як за гадзіну
Па полі прабег разоў сорак.
І нарабіў столькі дзірак,
Колькі на небе зорак.

Мо чымсці наадзяць.
Б'юць мяне кулакамі,
Садзяць у агонь камякамі,
Папоўніцы губяць,
Бо ўсе мяне любяць.

Не чалавек,
А частуе ягадамі
І грыбамі,
Размаўляе птушынымі песнямі
З Вамі.

Усю ноч
Сярэбраны капыток
Па збажыне лятаў,
Але ніводнага каласка
Не стаптаў.

Бліскучая
Удаленькая,
Пра грошы не пытае,
Свет увесь адзявае.

*Адгадкі шукай на старонка „Зоркі".*



*Летні ўспамін. Цалінка Глагоўская ў летніку „Грунвальд".*

**ВІКТАР ШВЕД**

### ХОДЗІЦЬ ПА СЯЛЕ ЗВЯЗДА

Каляда, Каляда!
Свеціць пад акном звязда.
Са звяздою ходзяць дзеці,
Хоць марозны шчыпле вецер.
— Заспяваць, ці не спяваць?
Кажаце калядаваць?
— Калядуйце, песняры!
Просяць іх гаспадары.
І прыгожыя такія
Льюцца песні калядныя,
Да самюсенькіх нябёс:
Нарадзіўся нам Хрыстос!
З хаты спазірае ёлка
Разнаколернай вясёлкай.
Гасцей многа за сталом,
Весяліцца кожны дом.
Ходзяць па сяле звязда,
Каляда, Каляда!



**********************

*Вершы пра родную мову*

**НАВУМ ГАЛЬПЯРОВІЧ**

Пакуль яшчэ ў сівых дзядоў
На вуснах тояцца паданні,
Пакуль сланечнік будзіць зноў
Мяне у вераснёўскім ранні,

Пакуль мы будзем помніць тых,
Хто ў праведных баях забіты,
Пакуль вясновыя сады
Выводзяць птушак на арбіты,

Пакуль яшчэ ідуць у бой
З маной і раўнадушшам смела,
То не загінуў мове той,
Што з вуснаў мацярок зляцела.

У блізкіх мовах блізкасць родных душ,
Адзінай дружбы чыстыя крыніцы,
Калі даводзілася сустракаць бяду
І разам паўставаць супраць чужынцаў.

Славянскіх моў дыханне на вякі
Агнём салодкім сэрца апаляла
І нараджала волатаў такіх,
Як Пушкін, як Міцкевіч, як Купала.

Зноў недзе каля Віслы ці Дняпра,
У Празе, у Сафіі ці ў Бялградзе
Спявае па-славянску дзетвара
І па-славянску гульні свае ладзіць.

Не, я не супраць розных іншых моў,
Але мне роднай смак заўсёды мілы.
І я — падданы беларускіх слоў,
Тых, да якіх Радзіма прычасціла.



**********************************************************************

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### ТАТА ЛЕЧЫЦЬ МЫШКУ ПІК-ПІК.

Аднойчы ноччу пабегла мышка Пік-Пік на кухню пашукаць штонебудзь смачненькае. І знайшла цэлы пачак цукерачак, кругленькіх, рознакаляровых. Гэтыя цукеркі тата купіў для Веранічкі на Каляды.

„Я толькі пакаштую", — падумала мышка, і пачала каштаваць. Каштавала, каштавала, пакуль пачак не зрабіўся пусты і лёгкі. І тут у мышкі Пік-Пік забалеў жывоцік. Яму даўно надакучыла пераварваць цукеркі цэлымі пачкамі. „Ой-ёй-ёй!" — заплакала Пік-Пік. — Што са мной робіцца! Ратуйце!" — і яна ўпала на спінку, задрала лапкі і галасна застагнала.

Першым прачнуўся тата. Прыйшоў ён на кухню, бачыць: мышка Пік-Пік ляжыць, хвост адкінуўшы, і стогне.

„Што з табой?" — папытаўся тата.

„Жывоцік балі-і-іць..."

„А чаму? Можа, ты з'ела штонебудзь?"

А мышка, хітруля, плача: „Нічо-га не ела! Ні крышачкі!"

„То мо ты галодная, жывоцік ад голаду баліць? Можа, даць табе паесці?
Хочаш цукерачку?" — Ад гэтых слоў мышцы Пік-Пік зрабілася яшчэ горай. „Не хачу! Не хачу!". „Ну, калі мышка Пік-Пік нават есці не хоча, трэба яе хутчэй ратаваць" — падумаў тата і прынёс вялікую скрыню з рознымі лекамі. Сеў тата на падлогу каля мышкі і пачаў перабіраць таблеткі.„Во, пры-гожанькія таблеткі! Кру-гленькія, ружовенькія! Напэўна, ад жывата!" — вырашыў тата і пра-панаваў іх мышцы. Лізнула мышка ружовенькую таблетку і плюнула: горка!

Пацінуў тата плячыма і дастаў іншыя таблеткі: „Во, блакітныя, бліскучанькія, таксама прыгожыя. Мусіць, ад жывата!"

Раскусіла Пік-Пік блакітную таблетку і ледзь адплявалася: яшчэ гарчэй. Пацінуў тата зноў плячыма і дастаў жоўценькія таблеткі: „Бач, якія жоўценькія! Пэўна, ад жывата!"

Але мышцы і жоўценькія таблеткі не дапамаглі. Перакаштавала яна ўсе лекі, і нічога ён не падыйшло. Толькі вялікіх белых таблетак з'ела мышка цэлы пачак. Праўда, гэта аказаліся вітаміны.

Паглядзеў тата на запляваную падлогу, разззлаваўся і ўстаў: „Ну, я зрабіў усё, што мог. І калі твой жывот такі дурны, што працягвае балець, дык я пайшоў спаць."

І тата пайшоў спаць.

А мышка застагнала яшчэ мацней, так што прачнулася дзяўчынка Веранічка і котка Пепіта. Прыбеглі яны на кухню, убачылі мышку і паклалі ёй на жывоцік цёплую грэлку. Пагрэўся жывоцік і перастаў балець.

Ускочыла мышка Пік-Пік і пабегла хутчэй у норку, бо ёй было вельмі сорамна, што яна з'ела ўсе Веранічкіны святочныя цукеркі.

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**




Малюнак Людмілы Рублеўскай

Сяргей Новік-Пяюн

## РАНІЦАЙ

Эх, насыпала праз ночку
Многа белага сняжочку!
Віснуць голькі дрэў уніз —
Гэтак снег на іх павіс.

Нібы ў казачнай красе —
У зімовай сад расе.
Каб на цуды падзівіцца,
Прыляцеў снягір з сініцай.

Мілым птушачкам я рад,
Дам ім прыгаршчы зярнят.
Хай шчабечуць пад акном,
Покуль зноў вясны прыжджом.

## ДЗЕД МАРОЗ

Працаваў Мароз нямала:
Шаць на дрэвы кінуў ён,
Залатых прыгоршчы зорак
Прыляпіў да шыб акон.

І вісяць яны шнуркамі,
Як брыльянты, зіхацяць,
Быццам зорачкі на небе,
Усміхаюцца-мігацяць.

Белай коўдраю пакрыты,
Пазірае сонны бор,
Не спявае, як калісьці,
Развясёлых птушак хор.

Падышоў Мароз да рэчкі —
І спынілася рака:
У кайданы закавала
Яе дзедава рука.

Люстра рэчкі ледзяное
Гладзіць сонейка з нябёс.
І лятае ў санках снежных
З дзікім свістам Дзед Мароз.



## ПУРГА

Загуляла, закружала,
Свае песні завяла,
Гурбы снегу навваліла,
Усе сцежкі замяла.

Вецер скокнуў з гор-грамадкаў,
Быццам злосны камандзір,
Хмараў цэлыя атрады
Б'е, ганяе ўздоўж і ўшыр.

Сівер люта завывае,
Свішча, гойкае, пяе,
Снег ахапкамі кідае,
Стрэхі ломіць, стрэхі рве.

А пад раніцу сціхае
Ды малым шчанём скуліць...
І зямля супачывае —
У белай світцы моцна спіць.





*Навагодні падарунак.* **Малюнак Марты Аляксеюк.**

## *Пішуць вучні*

**Добры дзень, „Зорка"!**

Пішуць да цябе вучні **чацвёртага класа са школы ў Храбалах**. У нашым класе ёсць 19 вучняў, а 13 з іх вывучае беларускую мову. У класе — вучні з васьмі вёсак. У школу дзеці даязджаюць школьным аўтобусам і аўтобусам ПКС. У гэтым годзе ў нас новая выхавацельніца: Крысьціна Карольчак, яна вучыць нас матэматыкі. Нядаўна, перад постам, у нашай школе была дыскатэка, мы падрыхтавалі таксама пачастунак. Было вельмі весела. Цяпер чакаем Свят і ёлкі. Павінна таксама быць цікава і весела. Напішам! Жадаем табе ўсяго добрага! Да пабачэння!

**IV клас з Храбалаў.**

**Беларускія гульні**

## САДЗІ ЛЯНОК!

Перад пачаткам гульні дзеці выбіраюць водзячага. На зямлі рысуюць кружкі-гнёзды, якія павінны быць на 2-3 менш чым игракоў. Усе становяцца ў агульны круг і бяруцца за рукі. Водзячы ходзяць па кругу і робяць розныя рухі: прысядае, падскоквае і г.д. Дзеці, не разнімаючы рук, павінны паўтараць яго дзеянні. Нечакана вядучы камандуе: „Садзі лянок!" Кожны імкнецца заняць гняздо. Той, хто яго не займе, лічыцца пасаджаным, яго садзяць у гняздо, дзе ён знаходзіцца да канца гульні. Затым гульня паўтараецца.

## *Вершы Віктара Шведа*

### НЕ ТРЭБА НАМ ДРУГОЙ БАБКІ

Бацька надзеў вушанку-шапку
І ад'язджае ў горад.
— Купі святочную нам бабку,
Жонка яму гаворыць.

Раптам азвалася Ґануля,
Пачуўшы вось такое:
— Мы маем нашую бабулю,
Не трэба нам другое.

### А ХТО БУДЗЕ ТАТАМ?

Абрадаваў Люня
Сястрычку Ганульку:
— Дырэктарам сёння
Зрабілі татульку.

— Дырэктар, вядома,
Заўсёды заняты.
А хто ж цяпер дома
Будзе нашым татам?

### ЦІ КАРЫСНАЯ ПЧАЛА?

Урок настаўніца вяла
І запытала Фому:
— Чаму з'яўляецца пчала
Карысным насякомым?

— Пчалу карыснай называць
Нас беспадстаўна вучаць.
Яна ж нас любіць дападаць
І джаліць так балюча!



*Адгадкі: камбайн, хлеб, лес, маладзік, іголка.*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

**Добры дзень, „Зорка"!**

Піша вам вучаніца шостага „Б" класа Мікашэвіцкай сярэдняй школы Н-р 2, член гуртка „Крынічка", Алена Крывулец. Я хачу напісаць вам пра родны кут, дзе я жыву, пра Беларусь.

*Змалку звялі цябе*
*Мы прыгожай Радзімаю.*
*Беларусь, Беларусь,*
*Як ты сэрцу любімая!*

Гэтыя радкі напісаў Пятрусь Броўка. І сапраўды, які прыгожы наш край. Беларусь — край шумлівых палёў і лясоў, блакітных азёр і рэк, на берагах якіх раскінуліся гарады, рабочыя пасёлкі, вёскі.

Наш пасёлак знаходзіцца паміж рэкамі Прыпяць, Лань і Случ. У пасёлку жывуць добрыя працавітыя людзі. Добрая палова з іх працуе на вялікім заводзе „Граніт". Кожную раніцу яны спяшаюцца на аўтобусы, якія вязуць іх на працу. Людзі прыветліва ўсміхаюцца, жадаючы адзін аднаму „Добрай раніцы". Цяпер усё часцей і часцей на беларускай мове. Пасля Вялікай Айчынай вайны беларуская мова пачала забывацца, але зараз зноў ажывае.

*Ты, мой брат, каго*
*завуць беларусам,*
*Роднай мовы сваёй не цурайся;*
*Як не зроксл яе пад прымусам,*
*Так і вольны цяпер не зракайся.*

А вось маленькі расказ пра сябе. Я вучуся не вельмі добра, але не дрэнна. Я вельмі люблю чытаць кнігі, спяваць, збіраю кухонныя рэцэпты, выкройкі адзення, вышываю, вяжу на прутках. Мне падабаюцца ўрокі рускай і беларускай літаратуры, музыкі, англійскай мовы. Я таксама люблю кветкі, прыроду. Хачу стаць настаўніцай.

Я вельмі хачу пасябраваць з дзяўчынкай з Польшчы, якая як і я, збірае кухонныя парады, выкрайкі адзення, праекты вышыўкі, вязання.

*Да пабачэння!*

225610, Беларусь,
Брэсцкая вобл.,
Лунінецкі раён,
г.п. Мікашэвічы,
вул. Першамайская, д. 83, кв. 24,
**Алена Крывулец.**

Беларусь, 211030, Віцебская вобласць, г. Орша, вул. 1 Мая, д. 54, кв. 8, **Собалева Лена** (13 гадоў, вучыцца ў VIII класе, збірае здымкі катоў, сабак і коней).

СССР, 346523, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Вахрушева, д. 8, кв. 2, **Щербина Наташа** (13 гадоў, цікавіцца спортам, збірае паштоўкі, наклейкі, ўкладкі) і **Щербина Юля** (10 гадоў, цікавіцца музыкай, збірае ўкладкі, налепкі, каляндарыкі і паштоўкі).

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А





**Знайдзі ўсе розніцы ў малюнках.**

- 3 -

*Яшчэ нядаўна многім беларусам, выхадцам з былых Дуброўскага, Сакольскага і Беластоцкага паветаў здавалася, што іх зямля — культурная і інтэлектуальная пустыня. Што нічога тут не было на працягу доўгай гісторыі, ніякага нацыянальнага ці культурнага беларускага руху, што ўсё, што тут было створана, было створана магутнымі суседзямі. Факты, аднак, перакульваюць гэты паверхоўны і стэрэатыпны погляд ды паказваюць на нешта адваротнае.*

*З незапамятных часоў на гэтай частцы беларускіх зямель развівалася ды квітнела беларуская культура, не раз апярэджваючы ў гэтым іншыя беларускія землі. Ці гэта ў навейшы „нашаніўскі" перыяд адраджэння ці ў заходнебеларускі гэтыя землі Беласточчыны заўсёды былі ў авангардзе беларускага нацыянальнага і культурнага руху. Прычым у гэтым руху ўдзельнічалі як беларусы каталіцкага веравызнання, так і праваслаўнага. Хопіць прыгадаць адных толькі з беластоцкай радаслоўнай даваенных беларускіх пісьменнікаў: Мікалай Арол (сапр. Сцяпан Пятэльскі — каля 1890 — канец 1917 ці пач. 1918 г.) родам з Гарадка, Іван Дарашкевіч (1890-1943) родам з вёскі Меляшкі, Язэп Рушчанец (сапр. кс. Язэп Рэшэць — 1890-1958) родам з Рушчанаў каля Беластока, Зоська Верас (сапр. Людвіка Сівіцкая, па мужу Войцік — 1892-1991) з-пад Новага Двара, Юрка Снапко (сапр. Язэп Лявіцкі — 1893?-1916) родам з хутара Горны Хлеўск, Адольф Зянюк (1894-1938) родам з Сухаволі, Вера Матэйчук (па мужу Маслоўская, другому — Карчэўская, псеўданім — Вера Мурашка — 1896-1981) родам з Супраслі, Уладзіслаў Казлоўскі (псеўданім Уладзіслаў Казлоўшчык — 1896-1943) родам з вёскі Залессе, Станіслаў Грынкевіч (1902-1944?) родам з Новага Двара, Франук Грышкевіч (1904 ці 1906-1944?) родам з Сухаволі, Ганна Новік, народжаная ў 1914 г. у горадзе Аўгустова.*

*Ажыўлены беларускі грамадска-палітычны, культурны і літаратурны рух на Беласточчыне яшчэ да I сусветнай вайны спрыяў разгортванню пазней і выдавецкай справы. У 1921 г. у Беластоку выходзяць кніжныя выданні Юрыя Кучынскага „Ад мора да мора" і В. Лесавіка „Наша крыўда", затым жа ўзнікшай тут управай „Сяўбы" выдаецца „Наша праца" ды ідзе падрыхтоўка да выдання тыднёвіка „Сяўба", пра лёс якога амаль што нічога не ведаем. Але ўсё гэта было ўжо пазней... А сёння — другая частка ўспамінаў пра Гарадзенскі гурток беларускай моладзі нашай славутай землячкі, яшчэ „нашаніўскай" пісьменніцы Зоські Верас.*

**ЮРЫ ТРАЧУК**

# ГАРОДЗЕНСКІ ГУРТОК БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

## УСПАМІНЫ АБ ГОРАДЗЕНСКІМ ГУРТКУ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Гл. н-р 3 (4) „Студэнскай думкі"

### II.

З'ехаўшы ў восені Г.Г.Б.М. (Гародзенскі гурток беларускай моладзі, — Ю. Т.), першым чынам мусеў выбраць сабе старшыню, каторым у канцы быў выбраны сябра К. Калышко, гімназіст VIII-ае клясы.

Пачаліся як і раней „лекцыі", спеўкі і вербаванне новых сяброў. У кастрычніку была наладжана малодшай секцыяй вечарына на Гарадпічанскай вуліцы. у памешканні п. Э. Сівіцкай (дзе таксама найчасцей адбываліся лекцыі і паседжанні). Ставілі сцэнічны абразок вершам „Пастушка" (пераклад з польскага І. С.) (аднаактоўку гэтую пераклала Сівіцкая, — Ю. Т.) і жывыя абразы.

Зараз пасля гэтага пачалі думаць аб спектаклю манючыся паставіць „У зімовы вечар". Але ж пераканаўшыся, што сілы за слабыя і добрага выканання нельга спадзявацца, пакінулі думкі аб спектаклі і пастанавілі зрабіць калядамі ёлку для дзяцей у якой-небудзь вёсцы. Гэты намер споўніўся і 6-га студзеня 1912 г., у дзень Трох Каралёў, была наладжана за складкавыя грошы сяброў гуртка ёлка ў вёсцы Сэруцёўцы Сакольскага павета Навадворскай парафіі. Апрача цукеркаў і т. п. — дзецям, было раздадзена старшай моладзі шмат календароў, кніжак, „Нашае нівы" і „Беларуса". Пасля Каляд праца пайшла звычайным шляхам. Толькі неяк перад Вялікаднiм малодшая секцыя йграла камедыйку „Страхі" (пераклад з польскага Л. С.) (Людвікі Сівіцкай, — Ю. Т.), а перад выездам „на лета" распрацавалі праграму „летняй працы".

Сабраўшыся ў восені 1912 году гурток спаткала неспадзяваная навінка. Кіраваўшы да гэтай пары гуртком кс. Ф. Грынкевіч, парваў цяпер з ім усялякія зносіны; ці гэта пад уплывам праследванняў з боку вышэйшага каталіцкага духавенства, ці дзеля перамены ўласных поглядаў, але ж, адным словам, перастаў зусім цікавіцца доляй гуртка. Гэтае здарэнне адбілася вельмі сумным рэхам у душах старшай моладзі. Не дзеля таго, што яна не пачувалася на сілах працаваць далей самастойна, але ж таму, што гэта было першае адступленне і то з боку кіраўніка і арганізатара. Паміма волі пачалі сябры неяк падазрона глядзець і адзін на аднаго не веручы балей у шчырасць і трываласць уласных поглядаў...

Хутка, аднак, страхнулі з сябе гэтую прыбітасць і няпэўнасць і пад кіраўніцтвам лепшых сваіх сілаў з падвойнай энергіяй узяліся за працу.

Праектаў было шмат. Не апускаючы лекцыяў з сярэдняй і малодшай секцыямі, папаўнялі бібліятэку і тэатральны рэквізіт; чыталі і разбіралі новыя творы беларускіх пісьменнікаў, а час ад часу некаторыя з сяброў прыносілі на „лекцыі" і свае ўласныя творы. На запускі адбыўся невялікі спектакль. Ставілі „Міхалка" і „Варажба цыганкі" (перараб ка з польскага Л. С.) (той жа Людвікі Сівіцкай, — Ю. Т.), апрача таго жывыя абразы і дэклямацыі.

Праектаваная выстаўка хатніх вырабаў не наладзілася, затое пачалася энергічная праца дзеля падгатоўкі матэрыялаў для аднаднёўкі.

Рэдакцыйная камісія, складаўшаяся з А. Зянюка, с.п. Язэпа Лявіцкага, Л. Сівіцкай, М. Бабрыкоўны і Ф. Лабенца (яны ж і аўтары артыкулаў) працавала шчыра і заўзята. І вось пад заслонай позпай ночы на пазычаным шапірографе адбілі 50 экземпляраў аднаднёўкі: „Колас беларускай нівы" (лацінкай). Абыймала яна 15 старонак фармату звычайнага аркуша пісомай паперы.

Якая радасць, можна сказаць, нават, шчасце запанавала ў сэрцах ініцыятараў і рэдактароў, як угледзелі сваю працу! Здзейснены праект, вылітыя на паперу думкі ажывілі неяк і дадалі веры ў свае сілы.

———

Тут мушу ўспомніць артыкул, надрукаваны ў часопісе „Крывіч" (н-р 1 (7) год 1924) (перадрукаваны намі ў 46 нумары „Нівы" ад г.г., — Ю. Т.) на стар. 64 пад загалоўкам: „Горадзенскі беларускі гурток 1913 г. (Успаміны)" — аўтар якой, няведамы мне, „Ян з-над Ласосны", піша рэчы зусім нязгодныя з праўдай. Паміж іншым, ён піша: „Адзіным відомым дакументам тагачаснай дзейнасці Беларускага гуртка пад духовым кіраўніцтвам кс. Грынкевіча асталася аднаднёўка „Колас нашай нівы" далей: „Прадмова, відаць, пісана рукой кіраўніка гуртка"... Нічога падобнага. Кс. Грынкевіч у той час кіраўніком гуртка не быў і ім не цікавіўся, а аб аднаднёўцы да часу яе паказання ў свет нічога не ведаў.

У гэтым самым артыкуле аўтар піша: „У 1913 г. у Горадні група вучняў сярэдніх школаў залажыла „Беларускі гурток"..., у той час, калі Г.Г.Б.М. быў заргапізаваны ў восені 1909 г., а ў 1913, можна сказаць, дажываў свае апошнія дні. Далей: „... утварыўся гурток, у аснову якога паложана была веравызначая азнака. Гэта адпавядала характару кіраўніка гуртка, які вызначаўся рэлігійным фанатызмам". І тут аўтар вельмі мыляецца. Праз увесь час існавання Г.Г.Б.М. ніякія рэлігійныя пытанні не былі закрануты, ані сябрамі, ані кіраўніком. Сябрамі былі як каталікі, так і праваслаўныя (Пушкарэвіч, Дзядзевіч, Сасноўская і інш.), праўда, апошніх шмат менш за першых, але ж гэта толькі таму, што яны былі больш зрусыфікаванымі, чым каталікі спаланізаваны.

Праўда, быў такі факт: (з лісту А. Зянюка з 19.X.1913 году) „...паклікаў „нас" да сябе кс. Ф. Г-ч (Ф. Грынкевіч, — Ю.Т.) і радзіў нам змяніць крыху статут, лепш сказаць, дапоўніць. Апрача напрамку самаасветнага дадаць пункт аб „самавыхаванні". Мы згадзіліся. Адначасна пазнаем і апрацоўваем нашую мову, вучым геаграфію і гісторыю Беларусі далей. Збіраемся ў кс. В. Родзькі. Паміма гэтага і цяпер ніякая „веравызнаўчая азнака" не прабіваецца.

Характэрна, што піша далей А. Зянюк (тагачасны старшыня гуртка) (прыгадайма тут, што Адольф Зянюк быў ураджэнцам Сухаволі, што на нашай Дуброўшчыне) :„Малодшых я колькі разоў збіраў, але ж з імі было надта слаба, бо кс. Халецкі (прэфэкт) сказаў у клясе, „што хто будзе хадзіць на „лекцыі" да А. З.(Адольфа Зянюка,— Ю. Т.), то будзе мець зараз рэлігію па-расейску". Але ж кс. Х.(Халецкі,— Ю.Т.), не толькі да малодшых „умяшаўся"! Аднаго разу паклікаў мяне і „jak przedstawiciel Katolickiego kosciola prosił i radził" (словы кс. Х.), каб перастаць „agitować" дзеля таго, што гэта можа быць крыўдай для Р. — Каталіцкага Касцёлу.

На мае довады проціў яго слоў ён паведаміў мяне, што гэтага году да духоўнай семінарыі беларусаў (свядомых) прыймаць не будуць. Калі я сказаў, што гэта мала мяне абходзіць, бо да семінарыі не кіруюся, кс. Х. пачаў траціць раўнавагу і скончыў гутарку радай — развязаць Гурток...

І тады нат былі мы „соллю ў вачох".

———

Вясной 1914 г. сябры Г.Г.Б.М. раз'ехаліся па хатах, каб балей ў Горадню — не вярнуцца. Пачалася вайна і параскідала іх па ўсім свеце.

Бібліятэка і тэатральны рэквізіт пакінутыя ў Горадні — прапалі бязследна. А яшчэ раней дзякуючы несумленнасці сакратара С. Більміна *(з іншых крыніц вядома, што аказаўся ён здраднікам, — Ю.Т.)D прапалі ўсе дакументы: статут, пратаколы сходаў і т.д.*

*Цяпер, на жаль, астаўся толькі — успамін.*

**Л. С-Ш.**

**(Зоська Верас)**

**P.S.***Другая частка ўспамінаў Зоські Верас (сапр. Людвікі Сівіцкай, па мужу Войцік) была надрукавана ў 4 (5) нумары „Студэнскай думкі" пад рэдакцыяй выхадца з Дуброўшчыны Адольфа Зянюка, аднаго з былых кіраўнікоў Гародзенскага гуртка беларускай моладзі ў 1912-1913 гадах, ад мая-чэрвеня 1925 г. Як вядома, часопіс гэты выходзіў у Вільні.*

**Ю. Т.**

✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱

# З ДРУКУ

## KOŚCIÓŁ NIENASYCONY

**Z rozmowy z Andrzejem MIŁKOWSKIM, liderem „Solidarności Pracy" („Trybuna" nr 278)**

**— „Kościół katolicki dynamicznie wkracza w coraz to nowe sfery naszego życia. Prawdopodobnie po ostatnich wyborach rola kleru w państwie jeszcze bardziej wzrośnie. Co Pan o tym sądzi?**

Żyjąc przez czterdzieści lat w PRL, mieliśmy obraz Kościoła filozofii i porad. Kościoła walki o dobro, wolność i prawa człowieka. Kiedy upadł poprzedni system, ujrzeliśmy obraz zgoła inny. Jest to teraz Kościół dyktatu, przemocy i terroru. W tej chwili jesteśmy świadkami inwazji sacrum na profanum, prym wiodą integryści. Jako państwo zapłacimy wysoką cenę na skutek nowej polityki Watykanu, która zmierza do inwazji Kościoła rzymskokatolickiego, szczególnie na tereny byłych państw bloku socjalistycznego. Na Wschodzie za wszelką cenę chce się wypierać prawosławie, szerząc katolicyzm siłami polskich kapłanów. Działania te są w tamtych krajach jednoznacznie oceniane jako przejaw polskiego imperializmu.

Kościół był zawsze bezwzględny, jeśli tylko mógł. Zawsze też był nienasycony. Proszę spojrzeć oczami człowieka z Europy Zachodniej na tę postępującą w Polsce inwazję Kościoła we wszystkie sfery życia. Zaczynamy być traktowani przez Europejczyków jako skansen zachodniej Azji. Warto pamiętać o tym, że tylko świecka władza dyktatorska pozwala na skuteczną realizację celów Kościoła. Nigdzie nie było tej instytucji tak dobrze jak za Mussoliniego we Włoszech, za Franco wHiszpanii czy za Salazara w Portugalii.

W Polsce każdy, kto przeciwstawia się Kościołowi, uznawany jest za walczącego z Bogiem. Uważa się, że człowieka takiego należy izolować. Kościół zmierza więc prostą drogą do opanowania głównych struktur państwa, by za pomocą policji politycznej i innych instrumentów móc wprowadzić system terroru i prześladowań za przekonania. Tym, którzy uważają, że przesadzam w swych ocenach, polecam regularną lekturę „Niedzieli".

Przedruk z „Gazety Wyborczej" Nr 981, 3 grudnia 1991 r.

## УВАГА ЧЫТАЧЫ!

На „Ніву" на 1992 год можна падпісацца ў ГП БГКТ.

Пра ўмовы падпіскі можаце даведацца на 12 старонцы . У гэтай справе можна званіць у рэдакцыю ( 210 33 ) або ў ГП ( 435 118 ).

✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱

## ПАЖАДЛІВАСЦЬ

Яна папісквае, вышмыгваецца з тваіх рук, уцякае... Нічога, трымаеш яе моцна і ўваходзіш штораз глыбей. Яшчэ, яшчэ! Юрліва глядзіш на адтуліну, якая становіцца вільготнай. Хочаш быць там, у сярэдзіне! Рабі сваё, укручвайся бязлітасна і рашуча, твая прылада цвёрдая, мацнейшая за яе, перамагае слабеючае супраціўленне, грэзне штораз глыбей у гэтай мякаці. Твая пажадлівасць накаляецца, спяшаешся, яшчэ адзін раптоўны рух, яшчэ адзін...

А цяпер ірвані да сябе! Уф! Ты ўрэшце адкаркаваў гэту праклятую бутэльку віна.

## НЕПІСЬМЕННЫ ЯША

Яша пайшоў уладкоўвацца на работу на гарбарны камбінат, але там яму сказалі, што непісьменнага прыняць не могуць. Пахадзіў, пахадзіў Яша і эміграваў у Амерыку. Праз нейкі час прыехаў у госці на радзіму і кідае долары налева і направа.

— Яша, чаму ты не выпісваеш чэкі, як у Амерыцы? — пытаюць.

— О, каб я ўмеў пісаць, то даўно працаваў бы на вашым гарбарным камбінаце.

# НІЎКА



– Ну, вось, гатова. *З. Дубовік („Вожык")*

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

— Усё цяпер дарагое, — гаворыць пажылы мужчына старому Максіму, — за адну пенсію пражыць цяжка.

— Ой так! Хоць ты памірай! — адазваўся Максім.

— Не памірай дзядуля, — просіць яго ўнучак, які пільна прыслухоўваўся размове, — пачакай да выплаты. Цяпер мама і тата маюць мала грошай.

* * *

— Татка, дзядзька Юзік ідзе, — радасна крычыць Давід.

— Чорт яго сюды нясе, — злосна бурчыць бацька.

— Але ён нешта ў торбе нясе.

— Заўсёды свой да сайго штосьці нясе. Добра, што хоць адведае час.

* * *

— Ведаеш, наш сын нарабіў даўгоў на два мільёны трыста семдзесят пяць тысяч трыста злотых, — скардзіцца мужу жонка.

— Нічога дзіўнага, але не разумею, на што мог ён аддаць яшчэ тыя трыста злотых.

* * *

У шпіталі хворыя расказваюць як пакалечыліся. Адзін хворы, у гіпсе і ўвесь забінтаваны, расказвае:

— Я моцна зграшыў. Усё жыццё чытаў святыя кнігі і падумаў узляцець на неба. Стаў я на комін і пачаў махаць рукамі. Набраўшы размаху, падскочыў я ўверх і ... не ўзялі мяне на неба. На зямлю спусцілі...

* * *

— Ты чаму крадзеш яблыкі з майго садка, калі ў цябе сваіх многа? — пытае сусед суседа.

— А хіба я сабе ворага? Свае яблыкі прадам, а твае з'ем.

**АЎРОРА**

# КАСЯК НА „К"

**Управа:** 1) Беларусь, 2) няма думкам спакою, 3) адзін рух нагою, 4) выводзіць дым, 6) ільдзіна, 8) музычнае выступленне перад публікай, 10) адзін качан і многа лісця, 13) маладзік, сход, поўня або ветах, 15) ачышчаныя сечаныя зярняты, 17) на канцы лёскі, 19) двухокіс крэмнію, 20) 60 штук.

**Улева:** 1) цячэ ў жылах, 2) мае яго расліна, зуб і слова, 3) горад над Віслай, 5) найважнейшы на судне, 7) вялікая рака ў Афрыцы, 9) не адна ў школе, 11) суседзі дрыгавічоў, 12) пальцы ў далоні, 14) прыгожая і пахучая, 16) сімвал веры ў каталікаў або асновы светапогляду, 18)., 21) чуваць яго, калі сварыцца.

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з н-ра 46:**

**Управа:** граніт, глуш, Гарун, ганарар, гарачка, грэлка, горад, гафт.

**Улева:** град, графіт, гатунак, гумар, гадоўля, ганак, грукат, гама.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае Аляксандр Дабчынскі з Беластока.



## АДНАКАШНІКІ

Самалёт вымушаны быў зрабіць пасадку ў джунглях, дзе гаспадарыла племя людаедаў. Да правадыра прывялі палонных: англічаніна, француза і рускага. Загадаў ён засмажыць англічаніна і француза на вячэру, а рускага вырашыў адпусціць.

— Чаму? — пытаюцца людаеды.

— Ён мой аднакашнік, мы з ім у маскоўскай вышэйшай партыйнай школе разам вучыліся.

## ПРЫ - ГА -ЖОСЦЬ

Надакучыла! Быць невідзімкай — ніхто не звяртае ўвагі. Заўтра ж займуся сабой — будуць і мне ўслед шыі паварочваць.

І вось пачынаю новае жыццё. Села на дыету: вада — кава — вада. Мінус дваццаць кілаграмаў плюс сэканомленая зарплата. Купіла кнігу „Галадаць карысна". Авітаміноз, выпадаюць валасы. Паспрабавала ўціраць новы імпартны бальзам ад аблысення. Алергія. Прыпісалі нейкія кампрэсы, прыйшлося пастрыгчыся пад „нуль".

Кажуць ультрафіялетавыя промні стымулююць рост валасоў. Загараю. Ляжу ў цяньку. Плюс 50° С. Апёк. Пухіры. Раблю прымочкі спецыяльнай настойкай. Пачалі слязіцца вочы. Параілі есці моркву, як зайчыку. Атруцілася нітратамі. Капельніца. Заражэнне праз іголку гепатытам. Высвятляла адносіны з лекарам. Неўроз. П'ю таблеткі, каб супакоіцца. Апатыя. Упадак сіл.

Пачала прымаць каньяк для бадзёрасці. Язва. Аперацыя. Зноў дыета. Зноў авітаміноз. Выпадаюць зубы. Уставіла. Рот не закрываецца. Запаленне лёгкіх. Доўга не праходзіць. Параілі зрабіць аналіз на СНІД. Аналіз станоўчы. Скочыла з чацвёртага паверха. Зламала ўсе ногі і чатыры рабрыны. Аналіз паўтарылі — дыягназ не пацвердзіўся. Ад радасці забылася ў палаце мыліцы. Звалілася на падлогу. Цяпер рот закрываецца, але не заўсёды адкрываецца.

Занялася аэробікай. Хаджу з цяжкасцямі. Шмат чытаю. Акуляры. Дасталі элегантныя мыліцы і парык. Модныя кліпсы. Яны так меладычна пазваньваюць (у мяне яшчэ галава трасецца).

І ўсё-такі я дабілася свайго! Калі мяне вязуць па вуліцах — усе шыі зварочваюць! А некаторыя назаўсёды!!!

**ТАЦЦЯНА СЕРГА**

*Пераклаў з рускай Валеры Бабей*

Ніва

„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Янка Целушэцкі (карэктар), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa

1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1992 r. upływa 20 lutego 1992 r.

2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.

3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.500 zł. a od 1 stycznia 1992 r. - 3000zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
- styczeń - 12. 000 zł.
- luty - 12 000 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.